Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

24 - 30 ЛІПЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№30 (170)

## АДНА ЗЯМЛЯ

**ВІЛЕЙКА**

## Першыя ў вобласці

Брыгада электраманцёраў – **Юрый Шчэннікаў, Ігар Максімовіч, Барыс Грыпініч** і **Анатоль Занкавіч** – прадстаўляла рэгіён на абласных спаборніцтвах у Дзяржынску.

Пасля іхняй перамогі зразумела, чаму на Вілейшчыне не ўзнікае вострых праблемаў з электрычнасцю.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

**АШМЯНЫ**

## Хто хоча вучыцца?

Доўгі час вучні з СШ №1 і іх бацькі вымушана цярпелі шмат нязручнасцяў, звязаных з тым, што будынак іх школы захаваўся яшчэ з дарэвалюцыйных часоў, а таму прыняць вучняў у адну змену не было аніякай магчымасці. Многія пачатковыя класы кіраўніцтва школы размяшчала ў бліжэйшым дзіцячым садку і нават інтэрнаце.

У новым навучальным годзе бацькі і іх дзеці падобнага хаджэння па пакутах не зведаюць. Праблемы будуць выраша[ць]ся пры дапамозе АТ "Будаўнік", якое завяршае ўзвядзенне новай школы. Школа зможа прыняць 1300 вучняў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**ІВЯНЕЦ**

## Ініцыятыва караецца

Мястэчка з 5–тысячным насельніцтвам не мае стадыёна. Старшыня гарпасвыканкома **Антон Ахрэм** вырашыў выправіць становішча.

Па яго ініцыятыве зроблены праект спартыўнага збудавання. Праект каштуе 100 мільёнаў рублёў. Праект жа мары івянчан – стадыён на 300 месцаў – цягне на 8 мільёнаў. Пошук сродкаў – галаўны боль мясцовай улады.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

**АСТРАВЕЦ**

## Перадавікі на Дошках

У Падольскім і Гервяцкім лясніцтвах, а таксама ў калгасе імя Чапаева вырашылі аднавіць Дошкі гонару. Перадавікоў згаданых прадпрыемстваў ужо сфатаграфавалі ў Астравецкім камбінаце бытавога абслугоўвання. Цяпер справа за Дошкамі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**АШМЯНЫ**

## Ад чатырох да васьмі

Сёлета, як і летась, беспрацоўныя павінны будуць адпрацаваць у ліпені чатыры, у жніўні шэсць, а ў верасні восем дзён на грамадскіх работах. Рашэнне аб гэтым прыняў Ашмянскі райвыканком.

Розніца ў колькасці дзён, як патлумачылі ў цэнтры занятасці, вынікае з таго, што ў жніўні трэба ўбіраць збожжа, а ў верасні – бульбу.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**ВАЛОЖЫН**

## «Тлусты» канкурэнт

ААТ "Масласырзавод" пачаў выпуск малака 2,5–працэнтнай тлустасці. Яно ўзбагачанае вітамінам С. Калгаснаму рынку будзе канкурэнцыя.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

**АСТРАВЕЦ**

## Патрон Кшыштаф клапоціцца пра бяспеку руху

Колькасць аварый на дарогах турбуе не толькі аўтаінспектараў ДАІ. Разам з імі сваю занепакоенасць падзяляюць і святары касцёлаў – праводзяць набажэнствы, дзе навучаюць аўтааматараў. У каталіцкім каляндары ёсць **дзень Патрона Кшыштафа** – заступніка ўладальнікаў аўто. Сёлета ён прыпадае на суботу, а таму ў Гудагайскім касцёле Наведання Найсвяцейшай панны Марыі ксяндзы будуць свянціць аўтамабілі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**ІВЯНЕЦ**

## Ручная работа без падаткаў

11 навінак вытворчасці: падлогавыя вазы, падсвечнікі, фруктоўніцы, іншае прадстаўлялі майстры керамікі на творчы суд камісіі рэспубліканскага канцэрна "Белмясапрам". Усе ўзоры былі зацверджаныя да выпуску.

Самым адказным экзаменам стане Савет народных мастацкіх промыслаў. Рашэннем яго спецыялістаў высокамастацкія вырабы ручной работы могуць быць вызваленыя ад выплаты 20–працэнтнага падатку на дабаўленую вартасць.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

**МІНСК**

## Памер аўтар канцэпцыі прыватызацыі ў Маладзечне

Вечарам 21 ліпеня на 63-м годзе жыцця пасля інсульту памёр прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў (БСПіА), вядомы ў рэспубліцы грамадскі дзеяч, доктар эканамічных навук, прафесар, заслужаны эканаміст Беларусі **Макс Самуілавіч Куняўскі.** У свой час М. Куняўскі распрацаваў праграму эканамічнага развіцця Маладзечна і прыватызацыі камунальнай уласнасці горада.

*БелаПАН і аддзел інфармацыі.*

*ВЫПУСКНЫ БАЛЬ*

# Ліпавыя дыпломы выпісвалі ў Вілейцы

***Некалькі клубных работнікаў Вілейшчыны адначасова пачалі працаваць па спецыяльнасці: за 2 мільёны рублёў (узору 1996 года) набылі сабе дыпломы аб заканчэнні філіяла Мінскага вучылішча мастацтваў. Супрацоўнікі аддзялення эканамічнай злачыннасці Вілейскага РАУС расказалі, што вокладкі фальшывых дыпломаў рабілі ў Мінску, пячатку ставілі, мяркуецца, у Маладзечанскім раёне (неразборліва, каб цяжка было прачытаць), а выпісвалі дакумент у Вілейцы.***

2 гады таму праводзілася атэстацыя работнікаў аддзела культуры райвыканкома. На сталічным узроўні падкрэслівалі: спецыялісты мусяць мець адпаведную адукацыю.

Цярпелі ад гэтага, у першую чаргу, кіраўнікі гурткоў пры клубах і дамах культуры. Няхай яны прафесіяналы з 30–гадовым стажам – шыюць, вяжуць, распрацоўваюць адзенне лепш за вядомых куцюр'е. Але без дакументальнага пацвярджэння сваіх здольнасцяў можна было пазбавіцца месца. І тады чыноўнік аддзела культуры райвыканкома (пакуль ідзе следства, прозвішча не называем) прапанавала жадаючым павучыцца "без адрыву ад вытворчасці" на завочным, платным аддзяленні філіяла. З 12 чалавек сабрала грошы і загадала чакаць выкліку на сесію. Час ішоў, людзі перыядычна звярталіся да пасрэдніка, а тая спасылалася на нейкія аб'ектыўныя прычыны – у філіяла цяжкасці з арэндай памяшкання, выкладчыкі і навучэнцы раз'ехаліся на бульбу і г. д.

І толькі сёлета вясной падзеі пачалі разгортвацца больш–менш хутка. Частка неадбыўшыхся навучэнцаў запатрабавала вярнуць грошы. Іншых жа чыноўнік перакапала яшчэ крыху пачакаць. Нядаўна прайшла ўрачыстасць. Без аніякай вучобы людзі атрымалі дыпломы.

Было прыемна, што вучоба прайшла ў іх на "4" і "5". Такія выніковыя адзнакі атрымалі па малюнку, жывапісу, скульптуры, гісторыі старажытнага свету, рукадзеллю. Праўда, аддзяленні яны заканчвалі розныя – харавое дырыжыраванне, прыкладное мастацтва. Рознымі былі і тэрміны навучання: з 94 па 97 г.г., з сакавіка 96 па сакавік 98 г., са снежня 96 па снежань 98 г. (ці дажывем?).

Апошняя памылка, мусіць, усё і сапсавала. Супрацоўнікі міліцыі доўга шукалі філіял вучылішча. Па названым адрасе існуе іншая навучальная ўстанова.

*Васіль САВІЦКІ.*
*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Масавых атручванняў не было

МАЛАДЗЕЧНА. Толькі за першыя 2 дні тыдня аналізы раённага **Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі** паказалі павышанае ўтрыманне радыенуклідаў у грыбах (**Шылавічы**, Вілейскі р–н), (**Даманава, Гліннае** Вілейскі р–н), чарніцах (**Броды**, Маладзечанскі р–н). ЦГіЭ папярэджвае: у сезон лясныя дары абавязкова трэба правяраць. У Цэнтры робяць гэта бясплатна.

Таксама апаратура ёсць на калгасным рынку, перапрацоўчых прадпрыемствах (для сваіх работнікаў). Як адзначыў галоўны ўрач Цэнтра **Віктар Белік**, на жаль, у баку ад праблемы стаіць лясгас. Ягоная інфармацыя аб небяспечных участках была б вельмі дарэчы.

*Аддзел інфармацыі.*

*ТЭЛЕФОН ВЫРАТАВАННЯ – 01*

# 45 секунд





***Супрацьпажарная ахова як асобная служба з'явілася на Беларусі ў канцы XIV стагоддзя. Разам з атрыманнем шэрагам гарадоў магдэбургскага права, паводле якога было магчымым стварэнне органаў гарадскога самакіравання. Дакладныя звесткі, якія дазваляюць сцвярджаць аб спробах паставіць справу барацьбы з агнём на прафесійную аснову, адносяцца да XIX стагоддзя. Такім чынам, 25 ліпеня супрацьпажарнай ахове на Беларусі будзе 145 год. Пра справы службы "01" расказвае начальнік атрада ваенізаванай пажарнай службы (АВПС) Маладзечанскага раёна Алег ШАДЫРА:***

***– Напачатку крыху пра сябе, як вы прыйшлі ў АВПС?***

– Тэрміновая служба ва Узброеных Сілах, затым работа на аб'ектах народнай гаспадаркі. Па накіраванні працоўнага калектыву ў 1979 годзе прыйшоў на службу ў Мядзельскі РАУС, дзе быў інспектарам. Адтуль мяне накіравалі ў Маскоўскую Вышэйшую інжынерна–пажарную тэхнічную школу. Там і давялося стажыравацца. Пасля заканчэння з 1986 года працаваў у Мінскім абласным атрадзе пажарнай аховы, пасля чаго быў накіраваны ў Маладзечна на пасаду начальніка СВПЧ. Пасля рэарганізацыі пажарнай службы (заводскія атрады былі адмененыя) з'явілася назва АВПС.

***– Колькі было выклікаў у першым паўгоддзі?***

– 992. З іх 97 – пажары, а астатнія – іншыя надзвычайныя здарэнні. Апошнім займаецца ПАВЧ (пажарная аварыйна–выратавальная часць). Гэта, па сутнасці, аналаг амерыканскай службы "911", толькі з горшай матэрыяльна–тэхнічнай базай.

***– Што часцей за ўсё з'яўляецца прычынай пажару?***

– Неасцярожнае абыходжанне з агнём (38 выпадкаў), няправільнае ўладкаванне і эксплуатацыя электраабсталявання (19 выпадкаў). Па месцах узнікнення пажараў лідзіруе жыллё - прыватны сектар (62 выпадкі) і шматпавярхоўкі (33).

За дзень прыкладна шэсць выездаў. Колькасць выклікаў павялічваецца вясною.

***– Колькі чалавек трэба для ліквідацыі пажару?***

– Гэта залежыць ад яго маштабу. Калі гарыць прамысловае прадпрыемства, то туды накіроўваюцца ўсе падраздзяленні.

***– А на іншае надзвычайнае здарэнне?***

– Спачатку едуць аўтацыстэрна (6 чалавек), машына сувязі і асвятлення, медыцынская дапамога. Калі ўзнікае неабходнасць, прыбывае падмацаванне.

***– Колькі часу патрэбна пажарным, каб выехаць на выклік?***

– Знакамітыя 45 секунд.

***– Ведаю, што сярод лепшых супрацоўнікаў АВПС С. Аношка, І. Бобрык, В. Карловіч, І. Сапач, Г. Рабец, І. Блізнюк, іншыя. Што вы пажадаеце сваім калегам у Дзень пажарнай службы?***

– Традыцыйных здароўя і дабрабыту, мужнасці, адвагі, гатоўнасці ў любую хвіліну прыйсці на дапамогу людзям.

АВПС Маладзечанскага раёна па выніках службовай дзейнасці займае другое месца ў Мінскай вобласці пасля Барысаўскага раёна. А створаны з ліку атэставаных супрацоўнікаў маладзечанскага АВПС духавы аркестр сёлета атрымаў дыплом І ступені на аглядзе–конкурсе мастацкай самадзейнасці ў намінацыі "эстрада".

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

ФОТА УЛАДЗІМІРА АСТАХНОВІЧА.

*Працяг тэмы на 2-й старонцы.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



# ...І на дудзе ігрэц

Ад старэйшых жыхароў Мядзела давялося пачуць, што мястэчка ў мінулым гарэла кожныя 12 год. Пасел-ішча зноў адбудоўвалася, але саламяныя стрэхі цесна збітых пабудоў спрыялі новаму пажару. «Чырвонага пеўня» тушылі хто як мог. Некалькі пажарных не маглі справіцца са стыхіяй.

У 20-х і 30-х гадах у Мядзеле была створана прафесійная пажарная каманда. Набіралі фізічна здаровых мужчын і яшчэ пры такой умове: каб мог іграць на духавым інструменце. Пажарныя абавязаныя былі іграць на вечарынах (зарабляючы грошы), а таксама на дэфілядах (дэманстрацыях) у час дзяржаўных святаў.

У цэнтры мястэчка была ўзведзена пажарная (з пясчана-цэментных блокаў) і каланча пры ёй. Па трывозе пажарныя імчаліся на конях, везучы бочку, а таксама ручную помпу.

Усе работнікі пажарнай стражы мелі парадную форму і спяцоўкі. Кожнаму выдавалася каска.

У час нямецкай акупацыі спынілася дзейнасць пажарнай аховы. Мядзел некалькі разоў гарэў падчас бою партызанаў з немцамі і паліцэйскімі.

Сёння ў Мядзеле ёсць ваенізаваная пажарная ахова. Прафесійныя абавязкі яны выконваюць спраўна. А вось з духавымі музычнымі інструментамі не сябруюць -- не патрабуе інструкцыя.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

*На здымку мядзельскія пажарныя 30-х гадоў.*

ФОТА З ФОНДАЎ МЯДЗЕЛЬСКАГА МУЗЕЯ НАРОДНАЙ СЛАВЫ.

ТЭЛЕФОН ВЫРАТАВАННЯ – 01

# Як пажарныя роды прынялі

***Часта мы з іроніяй глядзім на шыльды "Пры пажары тэлефанаваць 01". Аказваецца, "01" выратоўвае не толькі ад агню. Пра сваю работу расказвае начальнік аварыйна–ратаўнічай службы Маладзечна Генадзь САМАЛЬ.***

– Мы працуем ужо 2 гады і бярэм удзел у розных экстранных сітуацыях: пажарах, стыхійных бедствах, аварыях. Маем службу сувязі, пажаратушэння, медыцынскую службу і аварыйна–ратаўнічую.

Ёсць 17 машын, і ўсе адрозніваюцца па функцыях, якія выконваюць. Па зонах абслугоўвання ў нашай часці 6 раёнаў, з іх 3 у Гродзенскай вобласці – Смаргонскі, Ашмянскі, Астравецкі. Мы павінны ў выпадку стыхійных бедстваў, катастроф выязджаць і працаваць на месцы. Пакуль, праўда, выпадкаў з прыцягненнем у іншыя раёны ў нас не было. Па Маладзечанскім жа раёне даводзілася ўдзельнічаць у ліквідацыях аварый на чыгунцы, было шмат выпадкаў з удзелам нашай службы ў ліквідацыі аўтаавварый.

Адна з найбольш яркіх адбылася ў мінулым годзе на дарозе Маладзечна–Хажова ў раёне Мойсічаў – 2 аўтамабілі сутыкнуліся ўлабавую і атрымалі моцныя пашкоджанні. Пацярпела тады 7 чалавек – усе людзі былі заціснутыя ў аўтамабілях і іх прыйшлося выцягваць адтуль з дапамогай інструментаў. У выніку ўсе засталіся жывыя. Быў і яшчэ адзін выпадак на гэтай трасе, калі сутыкнуліся легкавыя аўтамабілі. Адзін і другі вадзіцелі аказаліся п'яныя.

Часта выязджаем на пажары ў жылыя сектары, часам аказваем першую дапамогу пры апёках, прымаем рашэнне дастаўляць пацярпелых у медыцынскія ўстановы або дастаткова нашай дапамогі.

У нашай практыцы быў выпадак, калі прыйшлося дастаўляць цяжарную жанчыну ў радзільнае аддзяленне, але не давезлі – у дарозе пачаліся роды. Наш фельчар прыняла дзіця, у выніку ў раддом былі дастаўленыя дзве жывыя істоты.

У мінулую суботу 3 разы выязджалі на месца выклікаў. Людзей, якія жывуць у нізкіх месцах, затапляла, у некаторых выпадках вада падыходзіла да дамоў.

Некалькі разоў на тыдзень робім выезды, каб адчыніць кватэры людзям, якія ў спешцы забыліся дома ключы.

У большасці выпадкаў пацярпелыя не хвалююцца, але здараецца, калі людзі нават плачуць. Ніводзін з гэтых выпадкаў мы не пакідаем без увагі – на тое мы і аварыйна–ратаўнічая служба.

У нас унікальнае, у некаторым сэнсе, узбраенне, якое дазваляе працаваць у хімічна-небяспечных асяроддзях. Ёсць касцюмы, у якіх да дзвюх гадзін мы можам знаходзіцца ў вадкай кіслаце. Касцюмы, боты і абсталяванне – гэта дапамога, якая была аказаная нямецкім Чырвоным Крыжом. Ён перадаў нам грузавую і пажарную машыны.

З гэтага года пачаў выходзіць спецыялізаваны часопіс пажарных. У першых трох нумарах пісалі і пра нашу часць. Часопіс штомесячны, і ў апошнім нумары апісана аналагічная Віцебская часць, ад якой мы адстаем па ўзбраенні, ды і колькасць у іх у два разы большая – у іх 100, а ў нас 50. Таксама ў Віцебскім атрадзе аказваюць вялікую матэрыяльную падтрымку наша рэспубліканскае ўпраўленне. Мы ж церпім цяжкасці ў фінансавым плане. І калі б тое, што мы хацелі б ператварыць у рэальнасць, падтрымлівалася фінансамі, то мы значна пайшлі б далей. Але нават цяпер у нас 30–секундная гатоўнасць. І ніколі мы не прыязджаем на месца непадрыхтаванымі.

Бытуе меркаванне, што мы прыязджаем на пажары без вады або чагосьці яшчэ. Тэхніка стаіць у нас заўсёды ў гатоўнасці. Бывае, што з аднаго пажару мы выязджаем на другі – выліваем ваду, едзем запраўляцца, а па радыёстанцыі выклікаюць на іншы пажар. Яшчэ не паспелі запраўіцца – і едзем туды. Вось такая сітуацыя дапушчальная. Мы прыязджаем, адразу ж шукаем крыніцу вады, становімся каля яго, ці гэта адкрыты вадаём, ці рэчка, ці водазабор. Запраўляем ёмістасць і заўсёды гатовыя.

*Запісала Таня МІР.*

КУЛЬТУРА

## У мястэчку Гудагай успаміналі пра Артура Цяжкага

АСТРАВЕЦ. "Рака жыцця Радзімай абагрэта" – такую назву атрымала вечарына памяці, прысвечаная 55–годдзю з дня нараджэння пісьменніка і журналіста **Артура Цяжкага**. Мерапрыемства арганізавалі супрацоўнікі Астравецкай цэнтральнай бібліятэкі ў мястэчку Гудагай.

Пісьменнік – аўтар апавяданняў "Сустрэча пасля вясны", зборніка "Пара блакітных дажджоў", склаў буклет "Народныя майстры Гродзеншчыны".

Прысутныя мелі магчымасць паслухаць урыўкі з твораў і даведацца мноства старонак яго цікавай біяграфіі, бо Артуру Цяжкаму даводзілася працаваць у розных месцах нашага рэгіёна, у розных газетах. Цікава было слухаць родных братоў Цяжкага – **Генадзя і Вячаслава**, якія расказвалі пра яго маленства.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Беларусь - мая песня

МІНСК. Нацыянальная выстаўка народнай творчасці «Жывыя крыніцы» прайшла ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі.

Сярод пераможцаў конкурсу - **Марыя Сасонка** з Івянца (работа з захаваннем мясцовых традыцый беларускага ручніка) і **Вікторыя Чырвонцава** з Маладзечна (калекцыя лялек у народных строях).

*Аддзел інфармацыі.*

ЧАРОЎНАЯ СІЛА МАСТАЦТВА

# Свята, якое заўсёды з табой

Французскі горад Бельфор, размешчаны на захадзе Францыі, калі ехаць па аўтастрадзе, якая вядзе проста да Міжземнага мора, добра вядомы студэнтам і выкладчыкам Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М.–К. Агінскага.

Самая вядомая славутасць горада – Бельфорскі Леў, статуя з чырвонага граніту, якая нагадвае пра гераічнае супраціўленне 1871 года, калі на працягу 103 дзён горад вытрымліваў асаду прускай арміі і адчыніў вароты толькі па загадзе ўрада. Сёння горад вядомы як цэнтр па вытворчасці хуткасных электравозаў, тут знаходзіцца адна з прэстыжных навучальных устаноў – вышэйшая школа інжынераў.

На працягу 12 год Бельфор з'яўляецца месцам правядзення міжнароднага маладзёжнага музычнага фестывалю – ФІМЮ. ФІМЮ ўжо стаў сімвалам, візітнай карткай горада, своеасаблівым музычным рандэву, куды штогод у маі з'язджаюцца музыканты з многіх краін свету, якія прадстаўляюць самыя розныя музычныя жанры і напрамкі: сімфанічную і народную музыку, джаз, рок.

Бельфор і ФІМЮ адкрыў для маладзечанцаў аркестр народных інструментаў музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам **Тамары Бяльковай**, які 2 гады запар з поспехам удзельнічаў у фестывалі. У маі эстафету прыняў сімфанічны аркестр Маладзечна пад кіраўніцтвам **Рыгора Сарокі**. Выступаць у жанры сімфанічнай музыкі на фестываль з'язджаюцца больш за тры тысячы музыкантаў з болей чым 30 краін свету.

Праехаўшы больш за 2000 км па дарогах Еўропы з прыпынкам у Герстхофене, каб выступіць перад нямецкімі сябрамі, аркестр прыбыў у Бельфор.

Горад сустрэў сардэчна і гасцінна, святочнай атмасферай вуліц і цудоўнай арганізацыяй. Аркестр размясціўся ў найпрыгажэйшым старадаўнім замку. Пейзаж у ваколіцах, дарэчы, у многім нагадвае наш, беларускі: лес, лугі, пагоркі. Але ў астатнім – чыста еўрапейскі стандарт: цудоўныя аўтастрады, праўда, у Францыі, у адрозненне ад Германіі, яны платныя, выдатны сэрвіс, паслужлівы персанал.




*Аўтобус быў другім домам.*

Суперсучасная зала "Атрыя", якая нагадвае вялізны шкляны павільён, запоўненая, колькі магчыма. Напружаныя хвіліны чакання. Узмах дырыжорскай палачкі – і ўрачыстыя гукі "Святочнай уверцюры" Д. Шастаковіча напоўнілі залу, пасля якой ён узарваўся апладысментамі. "Музычныя ілюстрацыі" Г. Свірыдава зачаравалі слухачоў настолькі, што яны апладзіравалі паміж часткамі, не чакаючы заканчэння твора. А "Першы канцэрт для фартэпіяна з аркестрам" П. Чайкоўскага ў выкананні аркестра і пятнаццацігадовага саліста **П. Ялецкага**, былога вучня ДМШ пры Маладзечанскім музычным вучылішчы, цяпер навучэнца музычнага ліцэя пры Маскоўскай кансерваторыі, канчаткова палaніў публіку, стаў апафеозам выступлення аркестра.



*Вы гледзіце на Парыж, зразумела, з Эйфелевай вежы.*

Поспех быў поўны з усімі адпаведнымі яго атрыбутамі: аўтографамі, інтэрв'ю прэсе, запісам канцэрта на відэа і аўдыёкасеты.

Такая ж выдатная атмасфера панавала і на іншых канцэртах калектыву, і ўсе яны прайшлі пры поўным аншлагу. Яшчэ некалькі год таму практычна ніхто ў Бельфоры не ведаў пра існаванне не толькі Маладзечна, але і мала хто чуў пра Беларусь. Цяпер жа імя нашага горада добра вядома большасці бельфорцаў і гарадскім уладам.

Акрамя Бельфора, праграма прабывання калектыву прадугледжвала наведванне Парыжа. І гэта было цудоўным працягам свята: велічны сабор Парыжскай Маці Боскай, вытанчаная Эйфелева вежа, без якой цяжка ўявіць Парыж, старажытны Луўр, Трыумфальная Арка, што захоўвае славу перамог, знакамітая плошча Згоды, Монмартр...

Дапамогу ў арганізацыі гэтай паездкі аказалі кампанія "Слава", малое прадпрыемства "Падрад", упраўленне культуры Мінскага аблвыканкома.

*Людміла ШАЛУХА, перакладчык.*

ЛЕТА НА ВАЛОЖЫНШЧЫНЕ

## Васьмёра шчаслівых

ВАЛОЖЫН. 8 дзяцей паехалі адпачываць у Балгарыю ў дзіцячы санаторый ля горада Нэсэбр.

Бацькі шчаслівцаў працуюць на даччыным прадпрыемстве "Лукойл–Валожын", і ўсе выдаткі аплачвае фірма.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Першы і не апошні

ІВЯНЕЦ. Завяршыў работу І міжнародны працоўны летнік пад эгідай Хрысціянскага Саюза моладзі.

Пяцёра студэнтаў, служачых, школьнікаў з Германіі і васьмёра нашых чысцілі, рамантавалі яўрэйскія могілкі, дакументавалі магільныя пліты. Размяшчаўся летнік у мясцовым дзіцячым доме–інтэрнаце. Адміністрацыя інтэрната з улікам высакароднасці місіі ўзяла грошы толькі за харчаванне.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Залаты фонд раёна

ВАЛОЖЫН. Кожны пяты выпускнік школ Валожыншчыны скончыў сёлета навучальныя ўстановы з медалём.

47 адзінаццацікласнікаў атрымалі "золата", 39 – "серабро". Больш за ўсё медалістаў у беларускай гімназіі – 26. У Івянецкай СШ – 13.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Мяняем дзяцей на халадзільнік

ВАЛОЖЫН. Летнікі для дзяцей Савецкага раёна сталіцы працуюць пры Сугваздаўскай базавай школе, Ракаўскай (працоўны летнік), Яршэвіцкай СШ. З гэтай нагоды адміністрацыя Савецкага раёна ўнесла матэрыяльны ўклад – набыла для летнікаў электрапліту, халадзільнік.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-29.*

## Прыцягальнае месца

***Пра багацце выбару ў гандлёвых установах гаварыць не варта: усе мы глядзім тэлебачанне, фільмы, нейкі час таму пачала было мяняцца сітуацыя і ў нас. Але ўражвае.***

Рэдкія амерыканцы купляюць рэчы «адразу». У тамтэйшых магазінах распаўсюджаная сістэма распродажаў, настаянна даюцца значныя скідкі, таму пакупнікі ад пачатку рушаць туды, дзе відаць шыльдачкі «sale» або «clearance». Бывае, што "пасвяць" абраны тавар, чакаюць, пакуль той не патаннее.

Гэта адна з тыповых супрацьлеглых рысаў амерыканцаў – беражлівасць (і адначасова існуе марнатраўства). Знаёмы ў Дэ Мойне раніцой цікавіцца:

– Табе нічога не трэба ў сухую чыстку здаць?

– Дзякуй, не. А што?

Паказвае мне ранішнюю газету, дзе відаць, што недалёка "хімчыстка" знізіла цэны ледзь не да нуля. Затым набівае вялізны пакет адзення і вязе чысціць.

Праз колькі дзён за вечар выпілі ўтрох бляшанак з дзесяць піва (па тамтэйшых мерках гэта грунтоўна). Гаспадар збірае тару:

– Заўтра занясу ў бліжэйшую краму ды здам – 50 цэнтаў за бляшанку.

Чалавек, дарэчы, штотыдзень не менш за $500 атрымлівае.

І тут жа можна бачыць, як амерыканец цягне два метры папяровага ручніка, каб выцерці рукі (хапіла б разоў у дзесяць меней). Або выкідае рэч, што яшчэ б паслужыла верай і праўдай. Што зробіш – выдаткі амаль абсалютнай забяспечанасці.

А распродажы бываюць па розных прычынах: адзенне выйшла з моды; завезена новая партыя тавару, таму неабходна расчысціць месца ў гандлёвай зале... Пры тамтэйшым багацці знойдзецца яшчэ прычынаў колькі. Там разумеюць, што лепей прадаць тавар па нізкай цане, а грошы пусціць у абарот, чым забіваць склады нікому не патрэбнай прадукцыяй і з гонарам паведамляць, што жыць стала лепей.

Буйны ўнівермаг - бадай, самае прыцягальнае месца для заможных жанчын Аёвы. У канцы XIX-пачатку XX стагоддзя такім чынам нават ствараліся дамскія прывілеяваныя клубы.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 15.07 | 22.07 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 92 | **97** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 350 | **350** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 98,2 | **98,2** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 48 | **48** |
| Рыс | 1 кг | 32,5 | **32,5** |
| Цукар | 1 кг | 28,3 | **28,3** |
| Грэчка | 1 кг | 35 | **35** |
| Алей | 1 л | 66 | **70** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 26,3 | **26,3** |
| Маянэз | 250 г | 24 | **24** |
| Кава "Пепе" | 100 г | 75 | **75** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 26 | **26** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 30 | **30** |
| Лімоны | 1кг | 64 | **64** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 40 | **45** |
| Масла | 1 кг | 100 | **100** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **25** |
| Малако | 1 л | 10 | **8** |
| Бульба свежая | 1 кг | 20 | **18** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 32 | **30** |

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ*

ПРЫЗНАЧЭННІ

# Іх павінны ведаць у твар



***Начальнікам Маладзечанскага гарадскога аддзела статыстыкі прызначаная Святлана АБРАМОВІЧ.***

***– Яшчэ Ільф і Пятроў сказалі: статыстыка ведае ўсё. Ад колькасці зубных урачоў да дакладнай наяўнасці кілбасных абрэзкаў. Гэта так?***

– Ёсць "Закон аб статыстыцы". Кожная арганізацыя, установа павінны здаваць справаздачу аб сваёй дзейнасці. Таму сапраўды дыяпазон інфармацыі ў нас вельмі шырокі.

***– Тады колькі зарабляе кіраўнік гарадской вертыкалі, банкіры? Хто ўваходзіць у дзесятку самых багатых людзей горада?***

– Уся інфармацыя канфідэнцыяльная. А што тычыцца багатых – і так усё відаць: хто на чым ездзіць, дзе і як адпачывае.

***– "Чэкісты" часцяком заходзяць у госці?***

– Лічу, што яны больш цікавяцца заснавальнікамі прадпрыемстваў недзяржаўных формаў уласнасці. А гэта ўсё ёсць у рэгіструючых органах – выканкомах.

***– Да прыкладу, прадпрымальнік хоча ўкласці грошы ў нейкую фірму. Ці надзейная яна? Інфармацыю шчодра аплацяць.***

– У нас штат 20 чалавек, і наўрад ці хто захоча трапіць пад крымінальную адказнасць. Працуем на даверы. Нядаўна арыштавалі галоўнага статыста Расіі. Таму ёсць сумны прыклад.

***– Якія найбольш маштабныя вашыя кампаніі?***

– Праводзім перапіс садоў (раз у 14 гадоў). У горадзе і раёне больш за 27 тысяч асабістых прысядзібных і 18 тысяч садаводчых участкаў у адпаведных таварыствах. Гэта робіцца не дзеля ўвядзення падаткаў, як некаторыя думаюць, а каб у рэспубліцы ведаць тэндэнцыю развіцця садаводніцтва. Цяпер з нашага Міністэрства прыйшоў ліст наконт правядзення анкетавання прадпрымальнікаў, якія займаюцца грузаперавозкамі і маюць на гэта ліцэнзію. Але самая галоўная кампанія будзе ў наступным годзе: усерэспубліканскі перапіс насельніцтва. Год таму ў РБ правялі папярэдні перапіс у Маладзечанскім раёне – каб стварыць адзіную методыку, распрацаваць праграмы для камп'ютэра.

***– Дык колькі там жыхароў?***

– Падзею апярэджваць не буду. У раёне крыху больш за 50 тысяч, крыху менш за 100 – у горадзе.

***– Не прапрацоўваеце варыянт аб стварэнні службы прагнозаў, увядзення платных паслуг? Бо з вашым банкам дадзеных можна з паветра грошы рабіць.***

– Магчыма, нейкія платныя паслугі і з'явяцца. Аднак рашэнне будзе прымацца на вышэйстаячым узроўні. Мы бюджэтнікі і дадатковая капейчына нам не зашкодзіць.

*Васіль САВІЦКІ,*

ФОТА АЎТАРА.

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Прыгаварылі да расстрэлу

ВАЛОЖЫН. Прайшоў суд над забойцам Валянціны Калядзы і яе маленькай дачкі Веранікі ("РГ" №4).

Апытаныя дзесяткі сведкаў, праведзены следчы эксперымент. Падазроны ў двайным забойстве жыхар райцэнтра Сак прызнаны вінаватым і асуджаны абласным судом да вышэйшай меры пакарання. Гэта была ягоная пятая судзімасць.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Карабін як рэліквія

ВІЛЕЙКА. У састарэлага чалавека з Ілішчавічаў знайшлі баявы карабін і патроны да яго.

– З Другой Сусветнай, – проста патлумачыў вясковец.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Юшка за 12 мільёнаў

МАЛАДЗЕЧНА. **Уладзімір Дзянісаў** на Заходняй Бярэзіне ля Васькаўцаў за паўгадзіны налавіў рукзак рыбы.

Праўда, карыстаўся электравудай. З усім скарбам яго і "павязалі" удзельнікі рэйду з рыбнагляду. Егеры паляўнічай гаспадаркі абследавалі месца лоўлі і на ўчастку ў 50 метраў знайшлі каля ста рыбін. Рыбалоў заплаціць 12 мільёнаў.

*Алеся ДРАГУН.*

## Для аматараў піва

***Рынак у Ждановічах, 19 ліпеня***
***(цана у рублях за 0,5 л)***

Світанак .......... 18000
Алімпійскае .......... 16000
Мінскі бровар .......... 16000
Жыгулёўскае .......... 15500
Крыніца .......... 14800
Казіно .......... 12000

*Да піва можна набыць*

Лешч астраханскі вялены, 1 кг .......... 145000
вэнджаны, 1 кг .......... 135000
Ракі (вараныя, марожаныя), 300 г .......... 120000
Крабавыя палачкі, 100 г .......... 26000

*Для аматараў піва з сырам: сыр*

Ракфор, 1 кг .......... 188100
Галандскі, 1 кг .......... 141300
Сусанінскі, 1 кг .......... 134000
Рускі, 1 кг .......... 131000
Кілбасны, 1 кг .......... 98000
Славянскі, 1 кг .......... 64600
Нарач, 1 кг .......... 63700

*Ігар КІЦІКАЎ.*

## Бізнес па–пенсіянерску

***МАЛАДЗЕЧНА. У фірменным магазіне кандытарскай фабрыкі "Канфа" штодзень топчуцца бабулькі – на ўсе грошы купляюць пернікі.***

Кожная бярэ па 2 кг (больш не даюць) розных гатункаў. Сярод "Пчолкі", "Надзейкі", "Аматарскіх" найбольшым попытам карыстаюцца "Фруктовыя" па 34700 за кг. Дома бабулькі набыты тавар фасуюць па кілаграме, запайваюць у поліэтылен. На рынку такі пакецік каштуе да 45 тысяч.

*Алеся ДРАГУН.*

ПРАБЛЕМА

# Узаемасувязь паміж кепскімі дарогамі і ...

***У Расіі, як вядома ад класікаў, дзве бяды: дурні ды кепскія дарогі. Пра першае чытач мусіць меркаваць сам, а вось дарогі беларускія ўсё больш становяцца падобныя на суседскія.***

МАЛАДЗЕЧНА. Ёсць у горадзе такая мясцовасць, як "Лясныя". Закінутая богам і людзьмі (апошнія, прыкладам, да 610–годдзя горада і без таго прывабны цэнтр зрабілі яшчэ прыгажэйшым).

Здаўна вадзіцелі гарадскіх аўтобусаў усімі праўдамі і няпраўдамі імкнуліся не станавіцца на маршруты, што праходзяць там. Змена на "Лясных" – амаль гарантыя сур'ёзнай паломкі любой і без таго старэнькай адзінкі маладзечанскага грамадскага транспарту. Шмат нязручнасцей паўстае перад "хуткай дапамогай" і міліцыяй, газавікамі і работнікамі гандлёвых арганізацый, пажарнымі і іншымі службамі.

Прыкладам, ёсць на вуліцы Святаянскай магазін "на балоце". Не адзін раз туды не змаглі давезці тавары (хлеб з малаком).

Служба гаргазу ўказвае, што былі зрывы дастаўкі жыхарам згаданай (і не толькі, вядома) вуліцы газавых балонаў – людзі заставаліся без гарачай ежы і вады.

Гарадскі аддзел аб'яднання "Ахова" скардзіцца, што ўсё з той жа дарожнай прычыны супрацоўнікі не могуць своечасова прыбыць на ахоўваемыя аб'екты.

Сабраліся тады жыхары вуліцы Святаянскай, некаторых суседніх на сход і вырашылі патрабаваць ад уладаў добрую дарогу. Адказ камунальнай службы быў не надта ўражвальны: праводзім грэйдзіраванне, прафіляванне вуліцы, на асфальт грошай няма.



*Тыповы пейзаж «Лясных».*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

"Святаянцы", мусіць, прадбачылі гэта, таму паступілі тыпова па–амерыканску: прапанавалі свае варыянты вырашэння праблемы. Зрэшты, гаворка ў заяве, якую падпісалі больш за дзвесце чалавек, ішла менавіта пра асфальт, а не марнаванне часу і грошай пад шыльдай "прафіляванне".

Прапанавалі яны чатыры складаемыя добрай дарогі – чатыры крыніцы фінансавання: сувязь, гандаль, "Камунальнік" і гарвыканком. Намалявалі канкрэтна–пераканаўчую схему асфальтавання вуліцы для ўезда.

У адказ не атрымалі нічога. Космас, вакуум. Прапанавалі пятую крыніцу: самі жыхары згодныя ўнесці грошы на частку асфальтавання.

Вы думаеце, нешта зрушылася? Таму жыхары вуліцы Святаянскай справядліва палічылі, што з прычыны кепскай дарогі і нядобраўпарадкавання вуліцы парушаюцца іх правы як спажыўцоў тавараў і паслуг (не кажу пра астатнія правы). У цяперашні час імі прадпрымаюцца адпаведныя захады – накшталт звароту ў суд.

А ў рэдакцыйным архіве ляжыць калектыўны ліст жыхароў вёсак Паляны, Сакі, Гораўшчына, што на Маладзечаншчыне. Не ходзіць туды аўтобус ізноў жа з прычыны кепскіх дарог. Хаця вяскоўцы таксама прапануюць свой варыянт вырашэння праблемы.

Цікавая ў нас краіна: будаўніцтвам дарог вымушана займацца газета.

*Сямён ДАЎГАЛЁЎ.*

ЗДАРОЎЕ

## Чакаем новых нарматываў на ваду

ГОМЕЛЬ. Увядзенне новых гігіенічных нарматываў на пітную ваду стала асноўнай тэмай сумеснага пасяджэння прэзідыума Рэспубліканскага санітарна-эпідэміялагічнага савета і Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі 21 ліпеня.

Канчатковы дакумент, у якім будуць зафіксаваныя новыя нормы якасці, з'явіцца прыкладна праз 10 дзён. Аднак ужо сёння вядома, што нормы гэтыя будуць менш ліберальныя. Узмацненне патрабаванняў да якасці пітной вады абумоўлена агульнай экалагічнай абстаноўкай у краіне, а таксама паспяховым вопытам Расіі ў правядзенні аналагічных мер.

*Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.*

## ПАНЯДЗЕЛАК 27 ЛІПЕНЯ

Імяніны: пр. Юстыны, Анісіма; кат. Наталлі, Юліі.

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 "Резонанс"
8.50 Телебарометр
9.10, 19.00 Сегодня с вами
10.05, 18.50 Славянский базар
10.20 Потреб-корзина
10.35 Здоровье
11.05, 18.20 "Они сошли с ума!"
11.40 "Бездельник"
12.10 Теленавигатор
12.30 Поет Г.Галенда
13.00, 15.00, 18.00 Новости
13.15 "ЛЕТО БЫЛО ТОЛЬКО ДЕНЬ" Х/ф
14.25 Музантракт
14.35 Параграф
15.15 Курс фр. языка
15.45 "ДЕВОЧКА И ОКЕАН"
16.10 Я рисую
16.25 Регион
17.00 Беларусь-песня
17.30 "Гости в дом"
19.40 "Колыбельная"
20.00 "Панорама"
20.55 Смеяться - не грех
21.10 Хит-парад
21.20 "Морской бой"
24.00 Новости
0.15 Третий тайм

**ОРТ**

17.00 Новости
17.20 "РОКСОЛАНА - ПЛЕННИЦА СУЛТАНА" 1с. Сериал
18.05 "Час пик"
18.30 Угадай мелодию
19.00 Человек в маске
19.45 Спокойной ночи
20.00 "Время"
20.35 "ГОРЕЦ"
21.45 Пол Ньюмен
22.30 "ПРЕДНАМЕРЕННОЕ УБИЙСТВО" Мелодрама (Венгрия)
0.15 Новости

**РТР**

13.00, 16.00, 19.00 Вести
13.30 "ОТПУСК В СЕНТЯБРЕ" Драма.
14.40 М/ф "Му-Му"
15.00 "Башня"
15.30 "ПЕРВЫЕ ПОЦЕЛУИ"
16.30 Автоспорт
17.25 "ПЕТРОВКА, 38" Детектив
19.35 "САНТА-БАРБАРА"
20.35 Славянский базар
22.35 Вести и ДЧ
23.10 Сиреневый туман
23.50 Автошоу

**НТВ**

5.00 - 9.00 Сегодня
8.05 "НЭШ БРИДЖЕС"
9.15 "МОЙ ГЕНЕРАЛ" Комедия. Испания
11.00, 13.00, 15.00 Сегодня
11.25 "ПРОТИВОСТОЯНИЕ"
13.15 "САНСЕТ БИЧ"
14.00 На Играх доброй воли
15.20 "Улица Сезам"
15.50 М/ф
16.15 "ВОЙНА В КОСМОСЕ"
17.05 Криминал
17.15 Впрок
17.25 Футбольный клуб
18.00, 21.00 Сегодня
18.40 "НЕВЕРОЯТНЫЙ НЕУКЛЮЖИЙ-I" Фантастика. США
20.35 "Куклы"
21.50 "НЭШ БРИДЖЕС: Встряска"
22.40 "Сегоднячко"
23.15 "БАЙКИ ИЗ СКЛЕПА"

**КУЛЬТУРА**

7.05,13.00,19.30,23.00 Культура
7.35 "ВАРВАРА-КРАСА"
9.05 Гурмэ
9.20 Консилиум
9.50 Книги
10.05 Федор Тютчев
10.20 Царская ложа
11.05 Судьба офицера
11.35 Возрождение
12.05 Без визы
12.15, 13.15 Телеспектакль
14.00 Вместе с Фафалей
14.15 Глоток старинного вина
14.30 П.И.Чайковский
15.05, 19.10 М/ф
15.50 "Лукоморье"
16.10 Игра на палитре
16.45 "Люди в моде"
17.10 Вижу цель!
17.35 Н.К.Черкасов
18.20 Завещание XX века
19.00 Чудо-сказка
19.50 Док.фильм
20.45 После новостей
21.05 Дерево ремесел
21.10 М.Таривердиев
21.50 Спектакль

**ТВ-6**

6.05, 13.10, 16.50 Клипы
6.15, 7.40 М/ф
6.45, 16.00, 23.30 ДИСК
7.10, 16.35, 23.20 Патруль
7.30, 10.30, 13.30 ТСН-6
8.00, 17.50 "АПТЕКА III"
8.45 Обозреватель
9.45 Спорт недели
10.45, 15.50 Знак качества
10.55 О.С.П.-Студия
11.45 Обоз
13.40 "ВЕСНА" х/ф
16.30, 23.10 ТСН-6
17.00 Те Кто
18.30 "Музыка и пресса
19.30 Новости дня
19.55 "ТАЙНЫ ДАУЛИНГА"
20.55 Театр
21.45 "КУМПАРСИТА" Мелодрама

**ТВ-ЦЕНТР**

7.45, 16.45 "КЛУБНИЧКА"
8.30 "МАРИМАР"
9.35 "Сто к одному"
10.10 По требованию
10.40 Комильфо
11.00 "ДВОЕ НА ГОЛОЙ ЗЕМЛЕ" Драма.
12.25 Заходили корабли
13.10, 22.20 Петровка, 38
13.25 Расти, малыш!
13.40 Клуб "Элита"
14.00 "МНЕ НЕ ЖИТЬ БЕЗ ТЕБЯ"
15.30 "НАВСЕГДА"
16.30, 23.45 Новости
16.40 Как добиться успеха
18.50 "ПРАВО НА БЕЗЗАЩИТНОСТЬ"
20.55 Вечерние новости
21.15 "ФЕНИКС"
22.35 Времечко
23.55 Импровизация на тему

**НТВ+ МИР КИНО**

9.35 "НОЧНЫЕ ГРЕХИ"
10.20, 16.50 КиНовости
10.30, 17.45 "ЩЕЛЧОК"
12.30 Кинокарта. Индия
13.25 "ГРЕМЛИНЫ 2"
15.10 "ДРАЙВ"
17.00 "СПЕЦНАЗ"
19.45 "НЕПОНЯТЫЙ"
21.30 "ПРОТИВ ЕЕ ВОЛИ"
23.00 "КОГДА ПУЛЯ ПОПАДАЕТ В ЦЕЛЬ"

**НТВ+ НАШЕ КИНО**

9.04, 20.10 "ПРОТИВОСТОЯНИЕ"
10.05 "СЛЕД ДОЖДЯ"
11.35 "ВЕСНА НА ЗАРЕЧНОЙ УЛИЦЕ"
13.05 "СВЕТЛАЯ ЛИЧНОСТЬ"
14.25 "ТАЛИСМАН"
15.25, 20.00 КиНовости
15.35 "СРЕДИ СЕРЫХ КАМНЕЙ"
17.00 "ЛЕГЕНДА О ТИЛЕ"
18.20 "ВСЕ ОСТАЕТСЯ ЛЮДЯМ"
21.15 "СЛЕЗЫ КАПАЛИ"

## АЎТОРАК 28 ЛІПЕНЯ

Імяніны: пр. Кірыка, Савы; кат. Віктара, Інакенція.

**БТ**

7.00 "Доброе утро, Беларусь!"
8.00 Новости
8.15 "Сегодня с вами..."
8.50 "Потребительская корзина"
9.05 "Навстречу"
9.35 "Туробъектив"
10.00 Славянский базар
10.10 "Сельчане"
10.40 "Возможно, они сошли с ума!"
11.10 "Бон тон"
11.35 Земляки
12.25 Акколада
13.00 Новости
13.10 Видеофильм
14.15 Четвертое измерение
14.40 "Макаенка, 9"
15.00 Новости
15.15 "Д'Артаньгав и три пса". Мультсериал
15.40 "ДЕВОЧКА И ОКЕАН"
16.05 "Пограничье"
16.30 Уроки
17.25 "Многоголосие"
18.00 Новости
18.20 Возможно, они сошли с ума!
18.50 Славянский базар
19.05 Сегодня с вами
19.40 Колыбельная
20.00 Панорама
20.55 "Спикер-хата"
21.10 "Музыка без границ"
21.40 Международные спортивные новости
22.00 Славянский базар
22.35 "ИЗГНАННИК", худ.фильм
23.15 Карамболь
23.35 Хит-парад
23.40 Новости
24.00 Славянский базар

**ОРТ**

8.00 Новости
8.15, 17.20 "РОКСОЛАНА"
9.00 Человек в маске
9.45 "Смехопанорама"
10.20 Библиотека
10.30 "Угадай мелодию"
11.00, 14.00, 17.00 Новости
11.15 "Вместе"
14.20 М/ф
14.55 Счастливый случай
15.40 "ЛЕТО НАДЕЖД"
16.10 До 16 и старше
16.30 Вокруг света
18.05 Час пик
18.30 Угадай мелодию
19.00 Тема
19.45 Спокойной ночи!
20.00 "Время"
20.35 "ЕГО ЗВАЛИ РОБЕРТ" Фантастическая комедия
22.20 "Затмение"
23.05 Новости

**РТР**

6.30, 10.00, 16.00 Вести
7.30 "Деньги"
7.45 М/ф
8.05 Календарь
8.10 Диалоги о животных
9.05, 19.35 "САНТА-БАРБАРА"
13.30 "ОТПУСК В СЕНТЯБРЕ"
14.45 М/ф
15.00 "Башня"
15.30 "ПЕРВЫЕ ПОЦЕЛУИ"
16.55 Кроссворд
17.20 "ТЕНЬ" Музкомедия
19.00, 22.45 Вести
20.35 "ПСИ ФАКТОР"
21.25, 23.20 Славянский базар
23.05 Дежурная часть
0.15 Славянский базар
0.25 Звуковая дорожка

**НТВ**

5.00 - 8.00 СЕГОДНЯ УТРОМ Информационная программа, спорт, погода
8.05 "НЭШ БРИДЖЕС"
9.00, 11.00, 13.00 Сегодня
9.15 "ПО СЛЕДУ ТЕЛЕГРАФА" Психологическая драма. Франция
11.25 "ПРОТИВОСТОЯНИЕ"
13.15 "САНСЕТ БИЧ"
14.00 На Играх доброй воли
15.00, 18.00, 21.00 Сегодня
15.20 "Улица Сезам"
15.50 М/ф
16.15 "ВОЙНА В КОСМОСЕ"
17.05 "Криминал"
17.15 "Впрок"
17.25 Криминальная Россия
18.40 "ИСПРАВИТЕЛЬНЫЙ СРОК" Драма. США
20.45 "Куклы"
21.50 "НЭШ БРИДЖЕС: Кто-то пролетел над гнездом барракуд"
22.40 Сегоднячко
23.15 "СЕЛЬСКАЯ ЖИЗНЬ" Мелодрама

**КУЛЬТУРА**

7.05, 13.00, 19.30, 23.00 Новости культуры
7.25 И.Бунин
7.35 Поет О.Бородина
7.50 Спектакль
9.05 Музыка
10.40 Формат
11.05 Марина Зудина
11.35 Возрождение
12.05 Дерево ремесел
12.10 И.Бабель
12.35 Рядом с тобой
13.15 Вместе с Фафалей
13.30 "Романсиада-98"
14.30 Я создатель
15.05 М/ф
15.55 "Лукоморье"
16.20 Я садовник
16.30 Детский мир
17.25 "Ноу-хау"
17.40 К.Сомов
18.00 Невский бриз
18.35 Завещание XX века
19.15 Чудо-сказка
20.45 После новостей
21.05 "ЕГОР БУЛЫЧЁВ" Драма
22.30 Джазофрения

**ТВ-6**

6.05 Видеоклипы
6.15 М/ф "Девочка со спичками" и др.
6.45 ДИСК-канал
7.10 Патруль
7.30, 10.30, 13.30 ТСН-6
7.40, 10.45 Знак качества
8.00, 15.40 М/ф
8.30 "КРЫЛЬЯ"
8.55 "АПТЕКА III"
9.30 "ТАЙНЫ ДАУЛИНГА"
11.00 Катастрофы
11.30 Территория ТВ6
12.00 "Музыка и пресса"
13.20 Впервые...
13.40 "ДНИ ТУРБИНЫХ" Телесериал
16.00, 23.10 ДИСК
16.30, 22.50 ТСН-6
16.35, 23.00 Патруль
16.50 Видеоклипы
17.00 "Те Кто"
17.50 "АПТЕКА III"
18.30 "Мужской клуб"
19.30 "Новости дня"
19.55 "ТАЙНЫ ДАУЛИНГА"
20.55 "СТРЕКОЗА" Комедия
0.00 Знак качества
0.15 "БЕССТРАШНЫЙ ТИГР" Боевик. Канада

**ТВ-ЦЕНТР**

4.50, 6.15 "Навигатор".
7.45 "КЛУБНИЧКА" (Россия)
8.30 "МАРИМАР" (Мексика)
9.25 Мультфильм "Корабль пустыни"
10.55 Новости
11.00 "ЖИТЕЙСКОЕ ДЕЛО"
12.35 Мультфильм "Белая цапля"
12.55 Новости
13.15 "Петровка, 38"
13.30 Мультфильм "Нехочуха"
13.40 "Дамский клуб "Элита"
13.55 Новости
14.00 "МНЕ НЕ ЖИТЬ БЕЗ ТЕБЯ"
14.55 Новости
15.30 "НАВСЕГДА". (Мексика)
16.30 Новости
16.45 "КЛУБНИЧКА" (Россия)
18.55 "Лицом к городу"
19.50 Новости
19.55 "Брейн-ринг".
20.55 Вечерние новости
21.15 "ФЕНИКС" (Австралия)
22.15 "Петровка, 38"
22.30 "Времечко"
23.40 Новости
23.55 "РЕСТАВРАЦИЯ" Приключенческий фильм. США (95г.)

**НТВ+ МИР КИНО**

9.35, 17.00 "СПЕЦНАЗ"
10.20 "ПРОТИВ ЕЕ ВОЛИ"
11.50 "НЕПОНЯТЫЙ"
13.30, 19.15 КиНовости
13.40 "КОГДА ПУЛЯ ПОПАДАЕТ В ЦЕЛЬ"
15.15 "БОЛЬШАЯ БЕЛАЯ НАДЕЖДА"
17.45 Э.Беркли в комедии "МОЛЛИ И ДЖИНА"
19.25 "ЭТО МОЯ ВЕЧЕРИНКА"
21.10 "ВЕЧНАЯ УЛЫБКА НЬЮ-ДЖЕРСИ"
22.40 "ЭЛЕМЕНТ СОМНЕНИЯ"

**НТВ+ НАШЕ КИНО**

9.04 "ПРОТИВОСТОЯНИЕ"
10.10 "СЛЕЗЫ КАПАЛИ"
11.35, 17.00 "ЛЕГЕНДА О ТИЛЕ"
12.55 "ИСТОРИЯ С ПИРОЖКАМИ"
13.00, 18.15 КиНовости
13.10 "ТИШИНА"
16.30 "ПОЕЗДКА К СЫНУ"
18.25 "УКРОТИТЕЛЬНИЦА ТИГРОВ"
20.00 "ЧЕЛОВЕК В ПРОХОДНОМ ДВОРЕ"
20.05 "КОЛЕЧКО ЗОЛОТОЕ, БУКЕТ ИЗ АЛЫХ РОЗ"

## СЕРАДА 29 ЛІПЕНЯ

Імяніны: пр. Валянціны, Паўла; кат. Марты, Олафа.

**БТ**

7.00 "Доброе утро, Беларусь!"
8.00 Новости
8.15 Сегодня с вами...
8.50 "Потребительская корзина"
9.05 "Навстречу"
9.35 "Авто-парк"
9.45 "Компьютерный полигон"
10.05 Славянский базар
10.20 "Многоголосие"
10.50 "Родное слово"
11.25 "Видимо-невидимо"
12.25 А музыка звучит
13.00 Новости
13.15 "ПЕТЛЯ"
14.25 Музыкальный салон
15.00 Новости
15.10 Видеокурс французского языка
15.35 "5 x 5"
16.05 "ДЕВОЧКА И ОКЕАН"
16.30 "Монолог"
17.00 Сегодня с вами...
17.40 Славянский базар
17.55 *Футбол. Кубок чемпионов.* "Динамо"(Мн) -"Сконто"
19.50 Белорусский хит-парад
20.00 "Панорама"
21.00 Славянский базар
23.35 Киностружка
23.50 "Королевская охота"
0.30 Новости

**ОРТ**

8.00 Новости
8.15 "РОКСОЛАНА"
9.00 "Тема"
9.45 "В мире животных"
10.30 "Джентльмен-шоу"
11.00 Новости
11.15 Программа "Вместе"
14.00 Новости
14.20 Мультсериал "Тин-Тин идет по следу"
14.45 "Классная компания"
15.15 "Зов джунглей"
15.40 "ЛЕТО НАШИХ НАДЕЖД"
16.10 До 16 и старше
16.30 "Вокруг света".
17.00 Новости
17.20 "РОКСОЛАНА"
18.00 Футбол. "Спартак" - "Динамо"
20.00 "Время"
20.35 "С ТОБОЙ И БЕЗ ТЕБЯ" Мелодрама
22.20 Баскетбол. ЧМ
23.25 Новости

**РТР**

6.30 Вести
7.30 "Деньги"
7.45 Мультфильм "Шпионские страсти"
8.05 "Православный календарь".
9.10 "Маски-шоу"
8.35 "Подиум д'Арт"
9.05 "САНТА-БАРБАРА"
10.00 "Вести"
13.35 "ЗЕРКАЛО ДЛЯ ГЕРОЯ" Притча.
14.25 "Приключения Стремянки и Макаронины". Мультфильмы "Няньки", "Мастера танца"
15.00 "Башня"
15.30 "ПЕРВЫЕ ПОЦЕЛУИ"
16.00 "Вести"
16.30 "На дорогах России"
16.45 "Кроссворд"
17.15 "ЗДРАВСТВУЙ И ПРОЩАЙ" Мелодрама
19.00 "Вести"
19.35 "САНТА-БАРБАРА"
20.35 "ПУАРО". "ТРАГЕДИЯ В ПОМЕСТЬЕ МАРСЛОН"
21.35, 23.20, 0.25 Песни лета
22.45 "Вести"
23.05 "Дежурная часть"
0.35 "Живая коллекция". Группа "ЭСТ"

**НТВ**

5.00 - 8.00 СЕГОДНЯ УТРОМ Информационная программа, спорт, погода
8.05 "НЭШ БРИДЖЕС"
9.00 Сегодня утром
9.15 "МАРК ТВЕН ПРОТИВ..." Х/ф
10.30 Мультфильм "Приключения Мурзилки"
11.00 "Сегодня днем"
11.25 "ПРОТИВОСТОЯНИЕ"
13.00 "Сегодня днем"
13.15 "ЛЮБОВЬ И ТАЙНЫ САНСЕТ БИЧ"
14.00 "На Играх доброй воли"
15.00 "Сегодня днем"
15.20 "Улица Сезам"
15.50 Мульти-лето. "Зима в Простоквашино", "Считалка для троих"
16.15 "ВОЙНА В КОСМОСЕ"
17.05 "Криминал"
17.15 "Впрок"
17.25 Криминальная Россия
18.00 "Сегодня вечером"
18.40 "ПУТЕШЕСТВИЕ ХРИСТОФОРА КОЛУМБА" Историко-биографический фильм. США-Испания
21.00 "Сегодня вечером"
21.50 "НЭШ БРИДЖЕС". "НАЙТИ ПОТЕРЯННОЕ"
22.40 "Сегоднячко"
23.15 Футбольный клуб

**КУЛЬТУРА**

7.05, 13.00, 19.30, 23.00 Новости
7.25 "ЕГОР БУЛЫЧОВ" Х/ф
8.50 С.Есенин
9.00, 11.00, 15.00, 17.00 Новости
9.05 Ностальгия по Ривьере
10.00 "Лики истории"
10.30 "Веселые песни"
10.45 М.Волконская
11.05 "Не только о театре"
11.35 Искусство эпохи Возрождения
12.05 Поклонникам Терпсихоры
12.20 "Фотопортрет"
12.30 "Образ жизни"
13.15 "Вместе с Фафалей"
13.30 Молодые таланты
14.15 "Мир авиации"
14.45 "Без визы"
15.05 Мультфильмы "Крот и часы", "Волшебное кольцо"
15.50 "Лукоморье"
16.10 "Миф Д.Покровского"
17.10 "Академия спорта"
17.30 С.Рихтер
18.10 Русская усадьба
18.35 Завещание XX века
19.15 "Чудо-сказка"
19.50 "Киркенесская этика"
20.45 После новостей
21.05 "МУЖСКОЙ РАЗГОВОР" Семейная драма
21.35 Вспоминая конкурс

**ТВ-6**

6.05 Видеоклипы
6.15 Мультфильмы "Кот Котофеевич", "Волшебная попата"
6.35 ДИСК
7.00 Патруль
7.15 О кино
7.30 ТСН-6
7.40 Знак качества
7.55 Мультфильмы "Муравьишка-хвастунишка", "Балерина на корабле"
8.30 "КРЫЛЬЯ"
8.55 "ДЕЖУРНАЯ АПТЕКА III"
9.30 "ТАЙНЫ ДАУЛИНГА"
10.30 ТСН-6
10.45 "Знак качества"
11.00 "Вы - очевидец"
11.20 "Кипр"
12.55 Мужской клуб
13.15 Видеоклипы
13.30 ТСН-6
13.40 "ДНИ ТУРБИНЫХ" х/ф
15.30 Мультфильм "Последний лепесток"
16.00 ДИСК
16.30 ТСН-6
16.35 "Дорожный патруль"
16.50 Видеоклипы
17.00 "Те Кто"
17.50 "АПТЕКА III"
18.30 Ток-шоу "Я сама"
19.30 "Новости дня"
19.55 "ТАЙНЫ ДАУЛИНГА"
20.55 "ФЕХТОВАЛЬЩИК" Фантастика. США
22.55 ТСН-6
23.05 "Дорожный патруль"
23.20 "ДИСК-канал"
0.05 Знак качества
0.20 "ВЗРЫВ" Триллер. Канада

**ТВ-ЦЕНТР**

4.50, 6.15 "Навигатор"
7.45 "КЛУБНИЧКА" (Россия)
8.30 "МАРИМАР" (Мексика)
23.25 М/ф "Домашний цирк"
9.40 "Базар"
10.10 "Галерея Бориса Ноткина". Евгений Миронов
10.40 "Осторожно! Дети..."
10.55 Новости
11.00 "СОПЕРНИЦЫ" Драма
12.35 М/ф "Златовласка"
12.55 Новости
13.15 "Петровка, 38"
13.30 Мультфильм "Клад"
13.40 "История болезни"
13.55 Новости
14.00 "МНЕ НЕ ЖИТЬ БЕЗ ТЕБЯ"
14.55 Новости
15.30 "НАВСЕГДА" (Мексика)
16.30 Новости
16.45 "КЛУБНИЧКА" (Россия)
18.50 "КОМНАТА МАРВИНА" Драма. США (96г.)
20.40 "Анекдот на бис"
20.55 Вечерние новости
21.15 "ФЕНИКС"
22.20 "Петровка, 38"
22.35 "Времечко"
23.45 Новости
23.55 "Хроно".
0.20 "КОЖАНЫЕ КУРТКИ" Боевик США (91г.)

**НТВ+ МИР КИНО**

9.35, 17.10 "СПЕЦНАЗ"
10.20 "ЭТО МОЯ ВЕЧЕРИНКА"
12.10 "ЭЛЕМЕНТ СОМНЕНИЯ"
13.55, 20.00 КиНовости
14.05 "МОЛЛИ И ДЖИНА"
15.40 "ВЕЧНАЯ УЛЫБКА НЬЮ-ДЖЕРСИ"
17.55 "СИЛА ОДИНОЧКИ"
20.10 "СТРАННОЕ МЕСТО ДЛЯ ВСТРЕЧИ"
21.45 "ПОДЛЫЙ УДАР"
23.10 Фильм-загадка

**НТВ+ НАШЕ КИНО**

9.04, 20.10 "ЧЕЛОВЕК В ПРОХОДНОМ ДВОРЕ"
10.05 "УКРОТИТЕЛЬНИЦА ТИГРОВ"
11.40 "КОЛЕЧКО ЗОЛОТОЕ, БУКЕТ ИЗ АЛЫХ РОЗ"
13.15 "ЛЕГЕНДА О ТИЛЕ"
14.35 "ГРОЗА"
15.55, 20.00 КиНовости
16.05 "ЗАЛ ОЖИДАНИЯ"
17.00 "ЛЕГЕНДА О ТИЛЕ"
18.20 "ЛЮБОВЬ И ГОЛУБИ"
21.15 "ЧП РАЙОННОГО МАСШТАБА"

## ЧАЦВЕР 30 ЛІПЕНЯ

Імяніны: пр. Марыны, леаніда; кат. Людмілы, Пятра.

**БТ**

7.00 "Доброе утро, Беларусь!"
8.00 Новости.
8.15 Сегодня с вами
8.55 Потребительская корзина
9.10 "Усадьба"
9.35 "Мультиклуб"
10.05 Славянский базар
10.20 "КЛАН". Телесериал (Франция-Италия). 1-я серия
11.20 "Королевская охота"
12.00 "Гости в дом"
12.25 "Бархатный сезон"
13.00 Новости
13.15 "ПЕТЛЯ" Х/ф
14.25 "Окружающий мир"
15.00 Новости
15.15 "Д'Артаньгав и три пса". М/ф
15.40 "ДЕВОЧКА И ОКЕАН"
16.30 Концертный сезон
17.30 "Судьба моя и надежда"
18.00 Новости (с/п)
18.20 "КЛАН". Сериал
19.20 Сегодня с вами
19.55 Белорусский хит-парад
20.00 Сделано в Беларуси
20.15 "Криминальная хроника"
20.40 "Колыбельная"
21.00 "Панорама"
21.55 "Отбой"
22.15 Б.Брыльска в худ.фильме "АНАТОМИЯ ЛЮБВИ" (Польша)
23.40 Новости
23.55 Крок-2.
0.40 "Акколада"

**ОРТ**

8.00 Новости
8.15 "РОКСОЛАНА"
9.00 Америка с М.Таратутой
9.30 "Пока все дома"
10.20 Библиотека
10.25 Эти забавные животные
11.00 Новости (сп)
11.15 "Вместе"
14.00 Новости (с сурдопереводом)
14.20 Мультсериал "Невероятные приключения Джонни Квеста"
14.45 "Классная компания"
15.15 "Волшебный мир, или Синема"
15.40 "ЛЕТО НАШИХ НАДЕЖД" Сериал
16.10 ...До шестнадцати и старше
16.30 "Вокруг света".
17.00 Новости
17.20 "РОКСОЛАНА"
18.05 "Час пик"
18.30 "Эти забавные животные".
19.00 "Человек и закон"
19.45 Спокойной ночи!
20.00 "Время"
20.35 "УРАГАН". Фильм-катастрофа. США
22.55 Баскетбол. ЧМ
0.00 Новости

**РТР**

6.30 Вести
7.20 "Мир здоровья"
7.30 "Деньги"
7.45 М/ф "Волшебное кольцо"
8.05 "Православный календарь".
8.10 "Вовремя"
8.35 "Сам себе режиссер"
9.05 "САНТА-БАРБАРА"
10.00 "Вести"
13.35 "ЗЕРКАЛО ДЛЯ ГЕРОЯ"
14.45 М/ф
15.00 "Башня"
15.30 "ПЕРВЫЕ ПОЦЕЛУИ"
16.00, 19.00, 22.45 Вести
16.30, 21.25 Славянский базар
16.45 Кроссворд
17.10 "ЛАБИРИНТЫ И ЧУДОВИЩА" Приключенческая драма. США
19.35 "САНТА-БАРБАРА"
20.35 "ПРИТВОРЩИК"
23.05 "Дежурная часть"
0.25 "Подиум д'Арт".
0.55 "ПРЕЗРЕНИЕ" Мелодрама. Франция (63г.)

**НТВ**

5.00 - 8.00 СЕГОДНЯ УТРОМ Информационная программа, спорт, погода
8.05 "НЭШ БРИДЖЕС"
9.00 "Сегодня утром".
9.15 "ДВОЕ ПОД ОДНИМ ЗОНТОМ" Мелодрама
10.45 М/ф
11.00 "Сегодня днем"
11.25 "ПРОТИВОСТОЯНИЕ"
13.00 "Сегодня днем"
13.15 "САНСЕТ БИЧ"
14.00 "На Играх доброй воли"
15.00 "Сегодня днем"
15.20 "Улица Сезам"
15.50 М/ф "38 попугаев" и др.
16.15 "ВОЙНА В КОСМОСЕ"
17.05 "Криминал"
17.15 "Впрок"
17.25 Криминальная Россия
18.00 "Сегодня вечером"
18.40 "ОТСТУПНИК" Мелодраматический триллер. США
21.00 "Сегодня вечером"
21.50 "НЭШ БРИДЖЕС: Затмение"
22.40 "Сегоднячко"
23.15 "КОМНАТА В ГОРОДЕ" Мелодрама. Франция

**КУЛЬТУРА**

7.05, 13.00, 19.30, 23.00 Новости культуры
7.25 "МУЖСКОЙ РАЗГОВОР" Х/ф
9.00, 11.00, 15.00, 17.00 Новости
9.05 "Миф Д.Покровского"
9.50 "Два Владимира в поисках света"
10.10 "Академия спорта"
10.30 "Океаны времени и любви"
11.05 "Русская усадьба
11.35 Искусство эпохи Возрождения
12.15 П.И.Чайковский
12.30 "Правдашняя высота Лавлинского"
13.15 "Вместе с Фафалей"
13.30 О Зощенко
14.15 Поговорим о Малом...
15.05 М/ф "Крот и сны", "Кентервильское привидение", "Улыбка да Винчи"
15.55 Лукоморье
16.15 Живое дерево
16.20 Филармония наций
16.40 В.Даль
17.10 "Авангард"
17.25 "Мысли о Рихтере"
18.05 "Новое кино"
19.10 "Чудо-сказка"
20.45 "После новостей..."
21.05 "ПРЕСТУПЛЕНИЕ И НАКАЗАНИЕ" Драма.

**ТВ-6**

6.05 Клипы
6.15 М/ф "У лужи", "Ну, погоди!", "Веселая карусель"
6.45 ДИСК
7.10 "Дорожный патруль"
7.30 ТСН-6
7.40 "Знак качества
7.55 М/ф "Котенок по имени Гав", "Софус отправляется в полет"
8.30 "КРЫЛЬЯ"
8.55 "АПТЕКА III"
9.30 "ТАЙНЫ ДАУЛИНГА"
10.30, 13.30 ТСН-6
10.50 Театр
11.35 Пальчики оближешь
12.05 "Кинескоп"
13.40 "ДНИ ТУРБИНЫХ"
15.15, 23.30 Знак качества
15.25 М/ф
16.00, 22.45 ДИСК
16.30, 22.20 ТСН-6
16.35, 22.30 Патруль
16.50 Клипы
17.00 "Те Кто"
17.55 "АПТЕКА III"
18.30 "Сделай шаг".
19.30 "Новости дня"
19.55 "БЕССТРАШНЫЙ" Триллер. США
23.45 "БЕЗУМНЫЙ УИК-ЭНД" Комедия. США

**ТВ-ЦЕНТР**

7.45 "КЛУБНИЧКА"
8.30 "МАРИМАР"
9.25 М/ф "Воробьишка"
9.45 "Интернет-кафе"
10.10 "Хроно"
10.55, 12.55, 13.55 Новости
11.00 "ОШИБКИ ЮНОСТИ"
12.35, 13.25 М/ф
13.15 Петровка, 38
13.40 "Комильфо"
14.00 "МНЕ НЕ ЖИТЬ БЕЗ ТЕБЯ"
14.55, 16.30 Новости
15.30 "НАВСЕГДА"
16.45 "КЛУБНИЧКА"
18.50 "ЗИМНИЙ ВЕЧЕР В ГАГРАХ" Комедия
20.30 "Смех-парад"
20.55 Вечерние новости
21.15 "ФЕНИКС"
22.20 "Петровка, 38"
22.35 "Времечко"
23.45 Новости
0.10 "ЛИЦО ПОД ЗАСТЕЖКОЙ" Триллер. США (91г.)

**НТВ+ МИР КИНО**

9.35, 17.35 "СПЕЦНАЗ"
10.20, 18.30 Шварценеггер
10.45 Фильм-загадка
12.15 С.Дорфф и А.Мюллер-Шталь в остросюжетной драме "**СИЛА ОДИНОЧКИ**"
14.20 КиНовости
14.30 "СТРАННОЕ МЕСТО ДЛЯ ВСТРЕЧИ"
16.05 "ПОДЛЫЙ УДАР"
18.20 КиНовости
18.50 "ГЕРКУЛЕС В НЬЮ-ЙОРКЕ"
20.25 "ГРОМОВОЙ ПРИБОЙ"
22.00 "ТОПАЗ"

**НТВ+ НАШЕ КИНО**

9.04, 20.10 "ЧЕЛОВЕК В ПРОХОДНОМ ДВОРЕ"
10.10 "ЛЮБОВЬ И ГОЛУБИ"
11.50, 17.00 "О ТИЛЕ"
13.10 "ХОЖДЕНИЕ ЗА ТРИ МОРЯ"
15.35 "ОСТОРОЖНО! КРАСНАЯ РТУТЬ"
16.50, 18.25 КиНовости
18.35 "ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ"
21.15 "ДОЛОЙ СТЫД!"

# ДУМКІ АБ МАТЧЫНАЙ МОВЕ

***У цяперашні перыяд нашага складанага жыцця мы ўсе вельмі адчуваем мноства розных цяжкасцяў. Узровень гэтай адмоўнай з'явы значна павялічыўся і па прычыне Чарнобыльскай трагедыі. Для разважлівага чалавека заўсёды знойдзецца тлумачэнне тых ці іншых недахопаў, ад якіх мы так шчыра хочам пазбавіцца.Але ў нас, беларусаў, ёсць асаблівы недахоп, дэфіцыт, бадай, самага непрыемнага ўражання — абыякавыя адносіны да роднай мовы.***

Мне ўспамінаецца пачатак шасцідзесятых гадоў, калі давялося зайсці ў адзін з харчовых магазінаў нашай сталіцы, горада Мінска. У чарзе перада мной стаяла пажылая вясковая жанчына. За прылаўкам над вельмі маладзенькай дзяўчынай-прадаўцом было напісана (як звычайна, па-руску): «Вас абслугоўвае выдатнік гандлю»... і далей значыліся прозвішча ды ініцыялы. Дакладна я ўжо гэтага прозвішча не памятаю. Але добра запомніў, што прозвішча прадаўца было самае-самае беларускае. І калі жанчына сказала прадаўцу: «Падай мне, дзяўчынка, кавы», тая спачатку задумалася, а потым зарагатала гучным юнацкім смехам. А жанчына пакрыўджана ёй сказала: «Чаго ты з мяне, вясковай, смяешся? Я прашу цябе: прадай мне кавы». А тая, гледзячы на мяне і спадзеючыся, што я таксама падтрымаю смех, пачала яшчэ больш рагатаць. Тут я не стрымаўся і сказаў: «Слухай, дзяўчо, ці ведаеш ты з каго і чаго смяешся? Па-першае, ты смяешся над сваёй маці, а затым над сваёй роднай мовай. Жанчына ў цябе просіць кавы, а ты не ведаеш, жывучы ў Мінску, што кава — гэта той самы кофе, які табе больш вядомы, хоць кофе і замежнае слова». Прадавец крыху пачырванела і прамовіла: «Прабачце, а я гэтага і не ведала». Такіх прыкладаў адносін да роднай мовы, на жаль, прыйшлося бачыць нямала.

А вось другі выпадак. У сярэдзіне сямідзесятых гадоў у якасці паломніка я пабываў на Украіне ў горадзе Пачаяве. Пасля царкоўнай службы я зайшоў у адзін з магазінаў гэтага горада. Я таксама там убачыў такіх жа, як у нас у Мінску, маладых дзяўчынак-прадаўцоў. І ўсе яны на пытанні пакупнікоў адказвалі на сваёй роднай, украінскай мове, хоць і пытанні да іх былі рускамоўныя. І не чулася там ніякага смеху, бо гэтыя маладыя людзі з павагай ставіліся да роднай мовы. Увогуле, украінцы добра ведаюць каштоўнасць сваіх нацыянальных пачуццяў. І нам, беларусам, ёсць чаму ад іх навучыцца.

Я шчыра пераканаы ў тым, што наша родная мова набудзе сваё належнае гучанне ў асяроддзі беларускага народа, калі нашы дашкольныя ўстановы і школы будуць выкладаць вучням усе прадметы менавіта на гэтай мове.

Што датычыць Беларускай Праваслаўнай царквы, то яна , пры належных абставінах, унесла б свой адпаведны ўклад у справу адраджэння нашай мовы. І калі царква дагэтуль нічога такога не магла зрабіць, то мне здаецца, што абвінавачваць яе ў тым пакуль мы не маем падстаў. Наша Царква, як і іншыя цэрквы краіны, на працягу многіх дзесяцігоддзяў нагадвала распятага на крыжы Хрыста. У такіх абставінах ёй было не да мовы. Неабходна было выжыць. На вялікі жаль, мы яшчэ не маем на роднай мове такіх патрэбных кніг, як Евангелле, Катэхізіс і малітоўнікі. І пакуль што невядома, калі яны будуць. А гэтыя кнігі вельмі дапамаглі б нашым святарам праз казанні прышчапляць родную мову веруючым суайчыннікам. Трэба мець на ўвазе, што святару, які пазбаўлены багаслоўскай літаратуры на роднай мове, гаварыць казанні на гэтай мове вельмі цяжка. Зусім іншае — гаварыць на звычайныя тэмы. А мы сёння «Вестник Белорусского Экзархата» (я думаю так не ў ганьбу гэтай мове) маем магчымасць выдаваць толькі на рускай мове, калі не лічыць зусім рэдкіх надрукаваных там матэрыялаў на беларускай мове. І сам гэты «Вестник» калі-нікалі трапляе ў нашы рукі. І, як пісаў Я.Купала, «вось тут і жыві».

Было б надта добра, каб усе багаслоўскія прадметы ў нашай Духоўнай семінарыі, як і ў іншых беларускіх школах, выкладаліся на роднай мове.

І мне хочацца ад усяго сэрца сказаць сваім землякам-беларусам: паважаючы людзей розных нацый, з павагай адносячыся да ўсіх моваў свету, не губляйце свайго твару, не ганьбуйце роднай мовы; яна па-свойму прыгожая, як і ўсе мовы, і ўжо даўно чакае свайго адраджэння. Няхай ваша ганьба распаўсюджваецца на кожнае гнілое слова, якое выходзіць з чалавечых вуснаў. Заўсёды памятайце: той, хто ганьбуе родную мову (сам таго не заўважаючы), ганьбуе родны край, зямлю, на якой нарадзіўся і якая была паліта потам і крывёю яго бацькоў, дзядоў і прадзедаў.

У заключэнне мне хочацца асабіста звярнуцца да вернікаў Беларускай Праваслаўнай царквы. Умацоўваючы сваю веру ў Бога, не ўносячы разлад у царкоўнае жыццё, сціпла праяўляючы клопаты аб дасягненні нябеснай айчыны, хай кожны з павагай адносіцца да нашай зямной Бацькаўшчыны — шматгаротнай Беларусі, да яе багатай і пявучай мовы. Яна вельмі заслугоўвае на гэта. Вучыце сваіх дзетак, як трэба шанаваць яе і ведаць разам з усімі духоўнымі каштоўнасцямі.

**Ян МІЦЬКО.**

# ПАРАСТКІ БУДУЧЫНІ

***«Маладзечаншчына дала Беларусі прарока нацыянальнага адраджэння Янку Купалу. Адсюль ад Радашкавічаў шырылі грамадоўскі рух Браніслаў Тарашкевіч і Сымон Рак-Міхайлоўскі. Гэты рух не прыпыняўся тут, спараджаў новых змагароў нават у самыя цяжкія гады таталітарызму. Таму і сёння Маладзечаншчына дае стольскіх дзеячоў беларускай культуры, нацыянальнага адраджэння...» — так гаварыў аб нашым краі Адам Мальдзіс на адкрыцці Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў», якая адбылася у Маладзечне ў жніўні 1992 года.***

Сапраўды, Маладзечна мае добры культурны асяродак. Яго складае значная колькасць прафесіяналаў з розных галінаў культуры ад навукоўцаў да выкладчыкаў. З гэтай вялікай колькасці адукаваных людзей шмат схіляецца да думкі аб духоўным выхаванні моладзі, якое бачаць праз далучэнне яе да культурных набыткаў, што назапашаныя нашым народам. Адным набыткам з гэтага багацця з'яўляецца народнае мастацтва. Вывучэнне і асэнсаванне, развіццё яго на сучасным этапе — ёсць галоўная задача духоўнага выхавання моладзі. Вырашыць гэтую задачу спрабуюць розныя установы горада, пачынаючы з дзіцячых садкоў, дзе дзіця далучаецца да свету цудоўнай народнай казкі, песенькі, прымаўкі, загадкі. Далей праз новую прыступку —дзіцячыя школьныя і пазашкольныя ўстановы (агульнаадукацыйныя школы, школы мастацтваў, школы з мастацкім ухілам, дзіцячая мастацкая і музычная школы, цэнтр дзіцячай мастацкай творчасці, эстэтычны цэнтр). І заканчваецца ланцужок Маладзечанскім музычным вучылішчам імя М.К.Агінскага.

Ланцужок духоўнага станаўлення, па якім крочыць дзіця ад маленства да юнацтва — хай не дасканалы, але дае вынікі, што бачым ужо сёння. Вось прыклад з выступлення на заліковай канферэнцыі навучэнцаў класа народнага мастацтва, што існаваў пры дзіцячай мастацкай школе: «Краіна рэк і азёр, родная Беларусь! Пад сваім матчыным цёплым крылом выхавала ты дзіўны народ: ён умее і працаваць, і спяваць песьні, цярпець усе нягоды, але і пастаяць за сябе. Цябе, мая Беларусь, таптаілі, рэзалі на часткі, сціралі з памяці народа тваё імя, але ты ёсць! Такая родная ласкавая, пяшчотная Маці. Імя тваё не загінула бясследна ў лабірынтах часу. Ты вынесла нас, сыноў і дачок тваіх, на стомленых сваіх руках. Мы адчынілі вочы і ўбачылі, як свеціцца твой пяшчотны твар збожжавых палёў з блакітнымі вачыма празрыстых азёр. Прабач нам Матуля, што так доўга спалі, мы пастараемся зрабіць усё, што ты нам наказала.». Вось яны, выкладчыкі, якія будуць працаваць ці працуюць у школах, і выхоўваюць новыя парасткі нашага краю! Гэтая дзяўчына пачынала сваё набыццё духоўнасці ў сям'і, дзіцячым садку, СШ № 11, дзіцячай мастацкай школе...

Але згаданы ланцужок слабы, могуць выпадаць асобныя часткі. І каб умацаваць яго, асабліва на першым этапе, быў адчынены пры мастацкай школе клас народнага мастацтва. Адбылося тое, якраз, пасля вышэйзгаданай канферэнцыі. Глеба ў школе была падрыхтаваная: некалькі гадоў яна працавала па станковай кампазіцыі, якая набывала выгляд дэкаратыўна-ужытковай (напрамак — апрацоўка саломы, вырабы з лёну, выцінанка, потым размалёўка на дрэве і тканіне, апрацоўка дрэва, цяпер новы матэрыял — гліна). Прапанова гарадскому кіраўніцтву аб стварэнні класа народнага мастацтва, дзе рыхтаваліся б выкладчыкі для дзіцячых садкоў, знайшла падтрымку. Бачылася недалёкая перспектыва (2 гады і 10 месяцаў): у дзіцячыя садкі горада прыдуць маладыя спецыялісты, зацікаўленыя ў прапагандзе народнага мастацтва. Вучыліся юнакі і дзяўчаты з задавальненнем. Былі гадзіны практыкі ў дзіцячым садку, была выдатная выкладчыца Лазоўская Л.М. Прыходзілі ад дзетак з прасветленымі тварамі, вачыма-зоркамі. Хораша глядзець было на іх.

Потым першыя 8 дзяўчынак вялі гурткі па дзіцячых садках, распрацоўвалі самі праграму, пісалі планы і канспекты заняткаў. Самая адмысловая праграма з метадычнымі распрацоўкамі заняткаў вылілася потым у дыпломную работу, якую выканала Шабановіч Веранічка (як яе усе называлі з павагай і любоўю). Цяпер дзяўчына выкладае мастацтва ў адной са школ горада (у мастацкім класе). Шкада, што яе праца так нікога і не зацікавіла, ляжыць без патрэбы ў музеі вучылішча.

Праца другога навучэнца, цяпер таксама выкладчыка, Алега Фёдарава магла б быць таксама выкарыстана. Ён распрацаваў праект цікавай мэблі для дзіцячага пакоя. Зручная, утульная і назва ёй — «Вясёлы клоун». Распрацоўкі зроблены дасканала, хоць зараз у вытворчасць, болей таго, умелы бацька мог бы і самастойна выканаць такую мэблю. Яна лёгка робіцца і збіраецца.

Тры гады таму пры Маладзечанскім музычным вучылішчы імя М.К.Агінскага было адчынена аддзяленне дэкаратыўна-ужытковага мастацтва. Падмуркам ці лепей прататыпам яго быў клас народнага мастацтва, які існаваў пры дзіцячай мастацкай школе. Дарэчы, навучэнцы такога класа заканчвалі вучобу ўжо ў вучылішчы. Мы маем ужо два выпускі, у бягучым годзе — трэці. З тых 23 чалавек (класа народнага мастацтва) большая частка вучацца ў вышэйшых мастацкіх ці педагагічных установах. Астатнія працуюць у горадзе і раёне і таксама завочна працягваюць вучобу.

Што ж вывучаюць на аддзяленні дэкаратыўнага мастацтва? Галоўныя прадметы: малюнак, жывапіс, кампазіцыя, гісторыя культуры і выяўленчага мастацтва, колеразнаўства, шрыфты, чарчэнне і перспектыва, методыка выкладання спецдысцыплін, мастацкая апрацоўка матэрыяла (разьба, праца з саломкай, лёнам, выцінанка). Рыхтуем выкладчыкаў для дзіцячых школ ды іншых установ, акрамя мастакоў-майстроў, якія могуць працаваць на прадпрыемстве ці самастойна.

Навучанне пабудавана так, каб абудзіць духоўныя пачуцці, цягу да творчасці і жаданне перадаць усе набыткі іншым, адраджаць у маладых самасвядомасць. Але трэба і самім удасканальвацца. З тых выпускнікоў ужо вырасла больш дзесятка народных майстроў, якія з'яўляюцца сябрамі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці і складаюць Маладзечанскі філіял яго. Маладыя майстры актыўныя ўдзельнікі рэспубліканскіх выстаў7

Напрыканцы хачу нагадаць словы з тае канферэнцыі, сказаныя Янам Запруднікам: «Ад духоўнага адраджэння залежыць — у большай меры, чым людзі звычайна думаюць — адраджэнне эканамічнае».

***В. ЧЫРВОНЦАВА,***
***загадчыца аддзялення дэкаратыўнага мастацтва Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М.К.Агінскага***

## *ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ*

***Нягледзячы на тое, што гэтая рубрыка як быццам бы адрасаваная нашым жанчынкам, аднак шмат цікавага і карыснага знойдуць тут і мужчыны-гаспадары, калі, вядома, будуць сачыць за тым, што тут будзе падавацца. А гэта і рэцэпты старажытнай беларускай кухні, і каштоўныя парады па гаспадарцы і дому, і многае іншае. У большасці сваёй усе гэтыя звесткі ўзятыя з такіх крыніц мінулага стагоддзя як кнігі, напісаныя нашымі землякамі: «Кухар добра настроены» Яна Шытлера, «Кухарка Літоўская» В.А.Завадскай, «Гаспадыня літоўская або навука ўтрымання ў парадку дома...»(Літвой у той час называлі частку Беларусі на захад ад ракі Бярэзіны).***

***Для стварэння гістарычнага каларыту складальнікі рубрыкі імкнуцца захаваць стылістыку беларускай мовы XIX - пачатку XX стагоддзяў. Таму, каб ёй было зручна карыстацца, тагачасныя меры вагі і аб'ёмаў у дужках паказаныя прыблізна ў сучасным вымярэнні.***

# СВІНЫ РУЛЕТ

Фунт (400 г) свежага сала, столькі ж шынкі і два фунты (800 г) нятлустай свініны, абодва вухі парсюка крышаць на дробныя кавалкі, дадаюць чатыры лоты (50 г) цыбулі, зубкі два часныку, тры чвэрці лота (10 г) простага перцу, чатыры лоты (50 г) солі, па адной чвэрці лота (3 г) базілікі і чабору, а калі хто любіць маяран — і яго адну чвэрць лота.

Сумесь добра размешваюць, шчыльна начыняюць ёю страўнік маладога парсюка, моцна завязваюць абодва яго канцы і кладуць у каструлю, дзе ўжо наліта вада напалам з воцатам, а таксама ёсць некалькі лаўровых лістоў, гваздзіка. Усё вараць гадзін колькі. Потым рулет дастаюць, кладуць пад гнёт, каб спляскаўся. Падаюць на стол астуджаным, нарэзаным на кавалкі. Калі трымаць яго ў воцаце з вострымі прыправамі і пад шчыльнай накрыўкай, ён можа некаторы час захоўвацца.

# ВЭНДЖАНАЯ РЫБА

Рыбу расплясквають уздоўж, выпатрошваюць, соляць у драўлянай пасудзіне, перасыпаючы кожны слой жменяй солі, ставяць у халодным месцы. Праз тры-чатыры дні расцягваюць на лучынах і праветрываюць адзін-два дні. Потым, укруціўшы кожную ў паперу так, каб даходзіў дым, вешаюць для вэнджання ў халодным дыме ў вяндлярні ці коміне.

Чым больш тлустая рыба, тым смачнейшая яна будзе вэнджаная. А тэрмін залежыць ад памераў рыбы: восем-чатырнаццаць дзён дастаткова, каб завэндзіць нават вялікую.

# КРОХКІЯ АБАРАНАЧКІ ДА ГАРБАТЫ

Паўгарца (1,4 л) мукі разводзяць густа з вадой, дабаўляюць два яйкі і дзве лыжкі сырога масла, перамешваюць, дадаюць драджджэй пару лыжак, калі добрыя, а як нясвежыя, дык больш.

Калі цеста падыдзе адзін раз, лепяць тонкія невялічкія абаранаачкі, якія ставяць зноў расці. Потым кідаюць іх у вар, тыя, што ўсплываюць наверх, вымаюць і, добра пасыпаўшы соллю і кменам, саджаюць на блясе ў печ (духоўку).

Гатовыя абаранаачкі яшчэ раз высушваюць у негарачай печы.

# БУЛЬБА, ЗАПЕЧАНАЯ СА СМЯТАНАЙ

Звараную ў мундырах бульбу хуценька, пакуль цёплая, абабраць, накроіць, пасаліць, пакласці смятаны лыжкі са тры, прамяшаць і пячы да той пары, пакуль смятана не ператворыцца ў тлушч. Можна дадаць крыху падсмажанай у масле крышанай цыбулі.

Гэтаксама можна гатаваць і сырую бульбу.

# НАСТАЎНІК

Нам марыць належыць тады, калі марыцца,
Быць знічкай, несумнаю свечкаю тлець,
Можна й вясною дачасна састарыцца,
Можна і полымем ўвосень гарэць.

Хай славіцца сэрцаў жывое гарэнне,
Кахання і працы святы запавет.
Уся вартасць людскога жыцця ў тварэнні,
Калі застаецца раз'іскраны след!

*Ларыса ГЕНІЮШ*



Ёсць на любай майму сэрцу Смаргоншчыне невялічкая вёсаяка з прыгожай і паэтычнай назвай Міхневічы. Нейкі кіламетр трэба прайсці ад станцыі Залессе, каб убачыць яе першыя хаты. Маленькая і чысценькая рэчачка Драя аддзяляе яе ад больш вядомай суседкі — вёскі Залессе. Вось сюды доўгія гады ўзапар хадзіў і я — аўтар гэтых радкоў. Мяне тут чакалі. У простай вясковай хаце жыў чалавек. Настаўнік. Асоба. Высокі і прыгожы, з сівымі валасамі і праніклівымі вачыма, ён здавалася свяціўся дабрынёй і чалавечнасцю. Думалася, што будзе ён жыць вечна, бо гэта вельмі несправядліва, калі нашу зямлю пакідаюць такія людзі. Але жыццё дыктуе свае ўмовы. З боллю ў сэрцы прыходзіцца прызнаваць, што нічога вечнага ў гэтым свеце не бывае. Хіба толькі, тая рачулка Драя, якая няспешна нясе свае воды ў невядомую даль, каторае ўжо стагоддзе і на беразе якой нарадзіўся гэты чалавек. Гэта была яго рака і яго зямля, іншай яму было не дадзена ды, напэўна, і не патрэбна.

Віктар Піліпавіч Казлоўскі. Дзядзька Віця. Проста Піліпавіч. Любы майму сэрцу чалавек і грамадзянін. Непрыкметна праляцеў амаль год за штодзённымі клопатамі і турботамі, як яго няма сярод нас. А здаецца — ён са мной! Часта прачнуўшыся раніцай у выхадныя дні збіраюся паехаць да яго, каб прытуліцца душой да светлага і чыстага яго сэрца, да мудрай і добрай яго душы. У народзе гавораць, што чалавек жыве да таго часу, пакуль яго памятаюць. Значыць ён будзе жыць яшчэ доўга і ў першую чаргу ў сэрцы тых, хто яго ведаў і любіў. І неяк самі па сабе пачынаюць ажываць успаміны, пачынае паволі круціцца калаўрот жыцця, набываюць канкрэтныя абрысы рознакаляровыя шкельцы калейдаскопа памяці. Пачынае ажываць яго вобраз...

Нарадзіўся ў працавітай сялянскай сям'і, якая ведала і цаніла праўду, шчырасць, дабрыню і чалавечнасць. Такое не прадаецца і не купляецца, яно даецца Богам, а ўжо чалавек сам павінен вызначыць, як гэтым скарбам павінен распарадзіцца. Адны жывуць з гэтымі паняццямі ў вузкім коле сваёй сям'і, радні, аднавяскоўцаў. Другія стараюцца падзяліцца гэтым скарбам з іншымі. Да такой катэгорыі адносілася і сям'я Віктара Пілапавіча Казлоўскага.

З ранніх гадоў — а нарадзіўся ён 28 лютага 1923 года — маленькі Віця чуў размовы пра Грамаду, пра Тарашкевіча. Абуджаны Беларускі народ хацеў справядлівасці, хацеў стаць гаспадаром на сваёй зямлі. У хаце Казлоўскіх любілі і шанавалі кнігу, часопіс, газету. Балазе, самі гаспадары былі пісьменныя і, даволі адукаваныя па вясковых мерках людзі. Маці скончыла Міхневіцкую царкоўна-прыходскую школу і прайшла поўны курс двайной італьянскай бухгалтэрыі (так напісана ў пасведчанні). Бацька таксама меў за плячыма пачатковую адукацыю. Сям'я была вялікая і дружная. Акрамя Віктара, былі яшчэ дзве сястры і брат. І ўсе цягнуліся да кнігі, да ведаў. Бацькі ўсяляк падтрымлівалі іхныя захапленні, стараліся з усіх сіл, каб выйшлі ў людзі, сталі адукаванымі і патрэбнымі для Беларусі людзьмі.

У вызначаны тэрмін пайшоў у школу і Віця Казлоўскі. Школа была польская. На той час — а гэта былі праклятыя 30-я гады — беларускіх школ прыватных, а тым больш дзяржаўных, амаль не засталося на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Ледзьве ліпелі беларускія гімназіі ў Вільні, Навагрудку, Клецку. Некалькі гадоў назад зачынілі беларускую гімназію ў Радашкаічах. Польскія ўлады душылі ўсялякія праявы беларускай самабытнасці і непаўторнасці. Але Беларусь жыла! Жыла ў сэрцы тых простых вясковых людзей якія спрадвеку жылі на гэтай зямлі. Жыла і ў сям'і Казлоўскіх.

На ўсё жыццё запомніў Віктар Піліпавіч, як выганялі польскія ўлады з Міхневіцкай царквы праваслаўнага святара а.Алеся Каўша. Выганялі за тое, што вёў набажэнствы на роднай мове, што вучыў людзей шанаваць сваё, не выракацца сваёй веры, любіць свой край. І як адзін сталі на абарону свайго святара прыхаджане, дайшло, нават, да бойкі з паліцыяй, але брутальная сіла брала верх. Гэта западала ў сэрца ўражлівага юнака, прымушала задумацца над усім, што адбывалася вакол яго. Хутка праляцелі гады вучобы ў Міхневіцкай польскай пачатковай школе. А так хацелася вучыцца далей! І бацькі пайшлі насустрач пажаданню сына. У 1937 годзе ён тсаяў перад прыёмнай камісіяй Маладзечанскай гуманітарна-коадукацыйнай гімназіі імя Тамаша Зана. Адказамі сціплага і прыгожага юнака выкладчыкі былі задаволеныя. І вось ён гімназіст! З якой радасцю бег да цягніка, каб, прыехаўшы да хаты, распавесці гэту радасную навіну сваім бацькам, а пазней з неменьшай асалодай вяртаўся ва ўжо родныя сцены сваёй новай alma mater.

З прагнасцю ён слухаў лекцыі сваіх выкладчыкаў, тым больш, што настаўніцкі калектыў падабраўся вельмі зладжаны і прафесійны. Асабліва запомніліся ўрокі дырэктара гімназіі Люро, настаўнікаў Анцулевіча (прыродазнаўства), Кавалюка (геаграфія), Бароўскага (паланістыка) ды іншых. Нягледзячы на адкрытую паланізацыю, у гімназіі прысутнічаў беларускі дух. У адным класе з Віктарам Казлоўскім вучыўся сын Браніслава Тарашкевіча — Радаслаў Тарашкевіч, якога ўсе звалі проста Славік. Гэты хлопчык такі добры і справядлівы, выдатны знаўца замежных моваў, заўсёды падкрэслена гаварыў, што ён беларус. Былі і іншыя хлопцы, якія з цягам часу праявілі сябе на розных дзялянках беларускай дзейнасці. А гэта — М.Ганько, П.Ганэцкі, П.Асіповіч, Л.Шыман ды іншыя. Скончыць гімназію не ўдалося. Пачалася вайна.

На змену польскай уладзе прыйшла савецкая. На базе гімназіі адчынілася педагагічнае вучылішча імя Янкі Купалы. Але, на вялікі жаль, і гэтую вучобу спыніла вайна. 26 чэрвеня 1941 года Маладзечна захапілі немцы. Пачалося цяжкое жыццё пад чарговай акупацыяй.

Давялося вярнуцца дамоў. Жыў у Міхневічах, дапамагаў бацькам па гаспадарцы і запоем чытаў усё, што патрапляла ў рукі. З гэтага часу пачала сістэматычна збірацца хатняя бібліятэка. Як ён любіў кнігу! З якой любасцю гартаў кожане выданне, чуючы такі тонкі і прыемны пах Кнігі. Гэта любоў засталася на ўсё астатняе жыццё...

Недзе летам 1942 года выпадкова пачуў, што ў Вільні адчынілася Беларуская настаўніцкая семінарыя. Вырашыў паспрабаваць свае сілы. І вось, восенню таго ж года ён у Вільні. Прыехаў разам з сябрам-аднавяскоўцам. Была глыбокая кастрычніцкая ноч, на руках не было адпаведных прапускных дакументаў, а гэта па законах ваеннага часу пагражала смерцю. Але прага да вучобы брала верх. З цяжкасцю знайшлі будынак Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Папрасіліся на начлег. Стары і сляпы вартаўнік пашкадаваў маладых хлопцаў і дазволіў переначаваць. А ўжо раніцай былі ў кабінеце дырэктара семінарыі А.Карнюка. Пасля кароткай размовы былі дапушчаны да экзамена. Паспяхова іх здалі і былі залічаны на першы курс гэтай навучальнай установы. Інтэрната пры семінарыі не было і таму прыйшлося жыць на прыватнай кватэры. Гаспадаром быў стары і заслужаны беларускі дзеяч А.Більдзюкевіч.

Вільня. Старая беларуская добрая Вільня! Хто не кляўся ў любові да цябе. Хто не плакаў пры сустрэчы альбо развітанні з табой. Мусіць толькі той, каму не пашэнціла пабачыць цябе, прайсціся тваімі вулачкамі, зачаравана пастаяць ля тога ці іншага помніка тваёй даўніны і славы, падыхаць тваім паветрам. Гэты асаблівы горад нельга не любіць, бо ён святы! Святы для кожнага беларуса, які хоць крышачку ведае яго гісторыю.

Пастунова наладжваўся быт. З'явіліся сябры і любімыя настаўнікі. Адным з такіх настаўнікаў быў выкладчык беларускай літаратуры Франук Грышкевіч. Выхаванец Пражскага універсітэта, доктар філасофіі, адзін з разумнейшых людзей тагачаснай беларускай эліты, ён зачароўваў усіх, хто патрапляў на яго жыццёвым шляху. Што ж там можна было гаварыць пра простага вясковага хлопца з беларускай глыбінкі? Віктар Казлоўскі да канца свайго жыцця проста абагаўляў гэтага чалавека. Яго лекцыі былі вельмі змястоўныя, даступныя і зразумелыя. Не адставалі ад Грышкевіча і іншыя выкладчыкі. А гэта — Адольф Клімовіч (геаграфія), Янка Шутовіч (прыродазнаўства), Станіслаў Грынкевіч (анатомія і гігіена), Язэп Шнуркевіч (праца), Н.Падабед (гісторыя) ды іншыя. Усе з вышэйшай адукацыяй, якую атрымалі ў Віленскім, Пражскім, Берлінскім універсітэтах. Гэта былі па-сапраўднаму святыя і самаахвярныя людзі. Пра іх яшчэ напішуць: час і гісторыя. І самае галоўнае. Семінарыя выхоўвала сапраўдных беларускіх патрыётаў, стварала парасткі новай нацыянальнай інтэлігенцыі, якая гатова была аддаць усе свае сілы і веды роднаму беларускаму народу. Вось за гэта ў будучым прыйшлося пацярпець і настаўнікам і іх вучням. Але, пакуль што, наперадзе было жыццё і так хацелася жыць і нешта рабіць для сваёй шматпакутнай Радзімы.

Пасля заканчэння семінарыі паехаў працаваць у сваю родную вёску. Дзеці палюбілі свайго маладога настаўніка, наладзіліся добрыя чалавечыя ўзаемаадносіны з бацькамі вучніяў. Маючы за плячыма толькі 21 год жыцця, добра ведаў беларускую, польскую, нямецкую, лацінскую мовы, са слоўнікам чытаў па-літоўску. Але папрацаваць шмат не ўдалося. У канцы 1944 года быў арыштаваны і прывезены ў Мінск. Чым пагражаў савецкай уладзе гэты юнак? Што ён такога зрабіў злачыннага? Ды па-сутнасці нічога. Проста быў настаўнікам. Беларусам. Патрыётам. І гэтага было дастаткова.

Сядзеў у славутай Валадарцы нейкі час разам з былымі сваімі настаўнікамі — Франуком Грышкевічам і Станіславам Грынкевічам. Аднойчы, як вялі на чарговы допыт, Франук Грышкевіч выскачыў у лесвічную пралётку. Так закончылася жыццё гэтага славутага паэта, вучонага, настаўніка. А было яму крыху больш за сорак. Перад адступленнем немцаў сябры параілі яму выехаць за мяжу. Адмовіўся. «Перад сваім народам я ні ў чым не вінаваты»,— быў адказ. Памыляўся. Віна яго была ў тым, што празмерна любіў Беларусь і свой народ. Такое не даравалі.

А Казлоўскаму прыйшлося спазнаць усе жахі сталінскіх лагераў. Бясконцы здзек, холад, голад, шмон і муштру лагерных начальнікаў. Але не зламаўся. Застаўся чалавекам і грамадзянінам з вялікай літары. На бясконцых лагерных дарогах сустракаў шмат цікавых і сапраўдных людзей. Быў у адной брыгадзе з кампазітарам А.Туранковым, які ў той час ледзьве трымаўся на нагах і яго давялося падкормліваць, адрываючы ад свайго лагернага кавалка хлеба трошкі і для нашага творцы. Сябраваў з Алегам Лапіцкім — гэтай жывой легендай тагачаснага маладзёжнага беларускага руху. Аднойчы, успамінаў Віктар Піліпавіч, да яго падыйшоў Алег і сказаў: «Трымайся і не падай духам», — і нешта перадаў у рукі. Калі вярнуўся ў барак і пагледзеў перададзенае, то здзіўленню не было мяжы. У руках ён трымаў адлітую з волава прыгожую выяву Пагоню са словамі «Жыве Беларусь». Як і дзе Лапіцкаму ўдалося гэта зрабіць да апошняга дня свайго жыцця не ведаў, а распытваць не палічыў патрэбным. Час быў такі. Давялося сустракацца з былым, «вядомым» беларускім пралетарскім паэтам Андрэем Александровічам, з выдатным празаікам Барысом Мікулічам...

Толькі ў канцы 50-х вярнуўся на Радзіму, але яго тут не чакалі. Толькі родная сям'я прытуліла і абагрэла. Доўга не мог уладкавацца на работу. А як жа інакш — вораг народа! Толькі праз нейкі год прынялі настаўнікам працы ў школу № 6 г.Маладзечна. Папрацаваў у той школе даволі значны адрэзак часу, а потым перавёўся (як вызвалілася пасада) у канцы 60-х у родную Залескую сярэднюю школу. Там і дарабіў да выхада на пенсію. Дзеці яго любілі, а ён любіў іх. Не стварыўшы ўласнай сям'і (такія былі жорсткія паслялагерныя ўмовы), усю дабрыню свайго сэрца аддаў выхаванню новага пакалення. Вёў гурток аматараў прыроды, вучыў любіць і разумець яе жывое дыханне, неаднаразова выпраўляліся з дзецьмі ў блізкія і далёкія вандроўкі па родным краі. Стараўся прышчапіць дзецям любоў да кнігі, да роднай мовы і шмат чаго дамогся ў гэтым кірунку. Апошнія гады жыў актыўным грамадскім і культурным жыццём роднай Беларусі. Моцна перажываў за яе далейшы лёс, хваляваўся за стан роднай мовы, культуры, турбаваўся за маральны стан беларускага грамадства. Гэта падрывала апошнія сілы. 22 чэрвеня 1997 года страшэнны інсульт прыкаваў яго да ложка і больш падняцца на ногі не ўдалося. 12 жніўня 1997 года перастала біцца сэрца выдатнага чалавека, настаўніка, патрыёта.

Ёсць на любай майму сэрцу Смаргоншчыне невылічкая вёсачка з прыгожай і паэтычнай назвай Міхневічы. У ёй даўно не свеціцца вакно ў хаце майго старэйшага сябра, настаўніка, аднадумца. Недалёка ад простай вясковай царквы, на мясцовых могілках, знайшоў ён свой вечны дом і супачынак. Шумяць над ягой магілай дрэвы, расказваючы яму далейшую казку жыцця. На вялікі жаль, больш не давядзецца спаткацца нам на гэтым свеце, дарагі мой чалавек, але, дасць Бог, некалі нашы шляхі перакрыжуюцца там, куды немагчыма зазірнуць воку простага смяротнага чалавека, які яшчэ знаходзіцца тут, на гэтай грэшнай, але такой дарагой нам, зямлі. Свой аповяд хачу скончыць словамі нашай славутай паэткі Ларысы Геніюш, творчасць якой Віктар Піліпавіч любіў і паважаў:

Пад сонцам асветы ўзляцеў нібы птах,
З палоскі сялянскае, вузкае.
Адзін толькі ведаў у жыцці сваім шлях
Пачэсны. Цяжкі. Беларускі.

***Язэп РОКАШ.***

